# ПАШЫРЫМ ПАДПІСКУ

НА

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Часопісь „Шляхі Калектывізацыі“ зьяўляецца адзінай у БССР часопісьсю, якая поўна апісвае калгаснае будаўніцтва. На канкрэтных прыкладах часопісь вучыць, як арганізаваць працу ў калгасах, культпрасьветработу, грамадзкае харчаваньне і г. д.

У кожным нумары часопісі можна знайсьці шмат цікавага матар'ялу аб жыцьці і працы нашых калгасаў. Шмат зьмяшчаецца матар'ялу спэцыялістых.

Зусім пагэтаму ня дзіўна, што чытаючы часопісь, некаторыя калгасы толькі дзякуючы парадам часопісі „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“ зьнішчылі маючыяся недахопы па гаспадарцы.

Але, ня гледзячы на вялізарнейшую карысьць часопісі і таннасьць яе — шмат якія калгасы і вёскі ня ведаюць нават аб існаваньні часопісі. НА МЯСЦОХ ЗУСІМ НІЧОГА НЯ РОБІЦЦА ПА РАСПАЎСЮДЖВАНЬНІ СЯРОД КАЛГАСЬНІКАЎ І БЯДНЯЦКА-СЕРАДНЯЦКІХ МАС ВЁСКІ ЧАСОПІСІ „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“, якая адыгрывае вялікую ролю ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

На распаўсюджваньне гэтай часопісі трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу. Усе селькоры, камсамольцы, актывістыя-калгасьнікі, грамадзкія работнікі, настаўнікі — усе павінны прыняць гарачы ўдзел у распаўсюджваньні часопісі.

Райкалгассаюзы павінны таксама зьвярнуць увагу на гэтую справу.

Я АБ'ЯЎЛЯЮ СЯБЕ ЎДАРНІКАМ ПА РАСПАЎСЮДЖВАНЬНІ „ШЛЯХОЎ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“, шмат завербаваў ужо падпісчыкаў на часопісь. ВЫКЛІКАЮ НА САЦСПАБОРНІЦТВА ПА РАСПАЎСЮДЖВАНЬНІ ЧАСОПІСІ ЎСІХ СЕЛЬКОРАЎ, А ТАКСАМА І СТУДЭНТАЎ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА ЗАРАЗ НА РАЁНЕ.

Студэнт Палітпрасьветтэхнікуму Ю. Сьнітко.

---

*Малюнак на вокладцы: У калгасе „Сусьветны Кастрычнік“ ідзе праверка с. г. інвэнтару, за працай калгасьнікі т. т. ШАЦКІХ і СУМІН.*

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 - паверх, тэл. 14—60

№ 1—СТУДЗЕНЬ—1931

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ



**Тав. МОЛАТАЎ— старшыня СНК СССР**

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюза ССР аб назначэньні тав. В. М. Молатава (Скрабіна) старшынёй Савету Народных Камісараў Саюза ССР і Савета Працы і Абароны.**

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюза ССР пастанаўляе: назначыць тав. Молатава (Скрабіна), Вячэслава Міхайлавіча, старшынёй Савета Народных Камісараў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Савета Працы і Абароны.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюза ССР *М. Калінін.*

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту СССР *А. Енукідзе.*

Масква, Крэмль.
19 сьнежня 1930 г.

# ТРЭЦІ ГОД ПЯЦІГОДКІ

> „Наша краіна, дзе сацыялістычны сэктар заняў абсалютна пераважную ролю ў народнай гаспадарцы, уступілаў пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага наступленьня, у пэрыяд сацыялізму. Наступаючы 1931 год будзе годам новых дасягненьняў, новых буйнейшых посьпехаў сацыялізму ў яго барацьбе з капіталізмам. Выкананьне пляну ў галіне калектывізацыі дасьць абсалютную перавагу сацыялістычных элемэнтаў над капіталістычнымі элемэнтамі на вёсцы, узмоцніць змычку рабочай клясы з працоўнымі масамі сялянства і закончыць пабудову фундамэнту сацыялістычнай эканомікі СССР. Гэта будзе перамога ўсясьветнага гістарычнага значэньня".
>
> *(З рэзалюцыі пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б).*

З вялізарнейшымі перамогамі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва СССР уступіў у трэці год пяцігодкі.

Апракідваючы капіталістычныя ўстаноўкі правых і „левых" апартуністых, партыя і рабочая кляса, злучыўшыся з асноўнай масай сялянства, дасягнула такіх тэмпаў сацыялістычнага росту, аб якіх мы раней і марыць не маглі.

*СССР уступіў у паласу сацыялізму. „Пытаньне „хто каго", пытаньне аб тым, ці пераможа сацыялізм капіталістычныя элемэнты ў прамысловасьці ці яны перамогуць сацыялізм,—ужо вырашана ў асноўным у карысьць сацыялістычных форм прамысловасьці. Вырашана канчаткова і беспаваротна".*

*(Сталін).*

Вырасьлі, растуць і будуць расьці новыя волаты фабрыкі і заводы, гіганты цяжкай індустрыі—асноўная база сацыялізму. Серадняк павярнуўся да сацыялізму. Калгасы, абапіраючыся на сацыялістычную прамысловасьць, сталі на цьвёрдыя рэйкі.

*А ў выніку ўсяго гэтага мы дабіліся перавышэньня ўдвая давайсковага ўзроўню прамысловай прадукцыі; вырашана ў асноўным збожжавая праблема.*

Мова лічбаў гэтыя дасягненьні і перамогі СССР сьцьвярджае: буйная дзяржаўная прамысловасьць, даўшы ў 1929-30 годзе прырост валавой прадукцыі на 25 працантаў, перавысіла заданьне пяцігадовага пляну для гэтага году на 5 проц., у той час, як першы год пяцігодкі даў павялічэньне супроць намёткі пяцігадовага пляну на 3 проц. У выніку першыя два гады пяцігодкі далі прамысловай прадукцыі на 30,5 мільярда рублёў замест 29,3 мільярда рублёў. Цяжкая прамысловасьць дала краіне прадукцыі на 13,8 мільярда рублёў, замест намечаных 12,5 мільярда рублёў.

А па БССР на капітальным будаўніцтве ў 1929-30 годзе мы ідзем вышэй на 12 проц. А ў параўнаньні з 1928-29 годам, капітальнае

будаўніцтва павялічана на 73,7 проц. Валавая прадукцыя ўсёй прамысловасьці павялічылася ў другім годзе супроць першага году пяцігодкі на 74,2 проц. У параўнаньні з першым годам пяцігодкі мы ў другім годзе маем прырост рабочых на 47,2 проц.

*Такія гіганцкія посьпехі, якіх мы дасягнулі ў будаўніцтве сацыялістычнай прамысловасьці па ўсім Савецкім Саюзе, у тым ліку і па БССР, забясьпечылі карэнны пералом у бок сацыялістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі.*

Пасеўная плошча па ўсім Савецкім Саюзе ўзрасла з 118 мільёнаў гектараў у 1928-29 годзе да 127,8 мільёнаў гектараў у другім годзе пяцігодкі. Валавы збор збожжавых культур у 1930 годзе складаў 87,4 мільёны тон, у той як у 1929 годзе ён складаў 71,7 мільёнаў тон.

На БССР пашырылася пасеўная плошча ў параўнаньні з 1928-29 годам на 3,5 проц., а ў параўнаньні з 1927-28 годам—на 9,5 проц. Ураджайнасьць узьнята ў параўнаньні з 1928-29 годам на 7,3 проц., а ў параўнаньні з 1927-28 годам—на 20,54 проц.

*Па калектывізацыі сельскай гаспадаркі па ўсім Савецкім Саюзе мы за першыя два гады пяцігодкі перавысілі ў два разы пяцігадовую праграму.* На 1 сьнежня 1930 году па Савецкім Саюзе ў калгасах было аб'яднана звыш 6,15 мільёна сялянскіх гаспадарак, гэта значыць 24,1 проц. З гэтага ліку на збожжавыя раёны прыпадае 49,3 проц. 43,4 мільёна гектараў складала пасеўная плошча калгасаў у веснавую і асеньнюю пасеўную кампаніі супроць запраектаваных 20,6 мільёна гектараў для апошняга году пяцігодкі.

Такія нашы посьпехі, такія нашы дасягненьні.

У асьвятленьні гэтых фактаў робіцца зусім відавочным ідэолёгічнае банкруцтва і поўны правал правых і „левых“ апартуністычных установак.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б), які адбыўся 17—21 сьнежня, падвёўшы вынікі гаспадарчага пляну за два гады, намеціў праграму сацыялістычнага наступу на 1931 год. *Трэці год пяцігодкі зьяўляецца рашаючым. Ён павінен завяршыць пабудову фундамэнту сацыялістычнай экономікі СССР, ён вырашае лёс выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады.*

Згодна вызначаных лічбаў пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б) рост народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу ў 1931 годзе павінен будзе роўны намётцы для апошняга году пяцігодкі.

Капітальныя ўкладаньні ў народную гаспадарку ў трэцім годзе пяцігодкі вызначаны ў разьмеры 17 мільярдаў рублёў, у той час, як у трэцім годзе пяцігодкі было ўкладзена 10 мільярдаў рублёў. Лічба гэтая разьмяркоўваецца наступным чынам: для прамысловасьці—5,5 мільярда рублёў, электрыфікацыі—850 мільёнаў рублёў, транспарту—3 мільярды рублёў, абагуленаму сэктару сельскай гаспадаркі 3,8 мільёна рублёў.

Апошняя сэсія ЦВК БССР вызначыла плян капітальных работ па ўсёй прамысловасьці Беларусі на 171,8 мільёна рублёў. Прырост валавой прадукцыі вызначаны на 104 проц. Прырост гарадзкога пралетарыяту мяркуецца на 31,7 проц.

Выключныя посьпехі мы павінны мець у трэцім годзе пяцігодкі ў далейшай рабоце па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Па ўсім Савецкім Саюзе *мы павінны мець ня менш 50 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ахопленых калектывізацыяй.* Значна павінен

узрасьці лік новых саўгасаў. Амаль у чатыры разы павялічваецца лік машына-трактарных станцый, якія з 360 у бягучым годзе павінны ўзрасьці да 1 тысячы 400 у трэцім годзе пяцігодкі.

*Вырашыўшы ў асноўным збожжавую праблему мы павінны ў трэцім годзе пяцігодкі вырашыць жывёлагадоўчую.* Пры вырашэньні жывёлагадоўчай праблемы мы павінны ісьці тым-жа шляхам, як і пры вырашэньні збожжавай,—„гэта значыць праз арганізацыю саўгасаў і калгасаў, якія зьяўляюцца апорнымі пунктамі нашай палітыкі, паступоваператвараць тэхнічную і эканамічную аснову сучаснай дробна-сялянскай жывёлагадоўлі“ (Сталін).

Такі размах сацыялістычнага будаўніцтва, такая праграма вызначана партыяй і ўрадам.

Па меры нашага росту будзе яказваць шалёнае супраціўленьне, клясавы вораг—кулак, шкоднік, нэпман. Імпэрыялістыя, у сваю чаргу, будуць імкнуцца ўсімі сродкамі нам перашкодзіць. На гэта штурхае іх разьядаючы капіталістычную сыстэму эканамічны крызіс, які ахапіў ня толькі прамысловасьць, але і сельскую гаспадарку.

*Задача наша састаіць у тым, каб мабілізаваць усю ўвагу, энэргію і сілы ўсіх працоўных на пасьпяховае выкананьне праграмы трэцяга рашаючага году пяцігодкі.*

Вядучы і далей упартую сыстэматычную барацьбу з правай небясьпекай, як галоўнай на даным этапе, з „левымі“ загібамі, ліквідуючы на базе суцэльнай калектывізацыі кулацтва як клясу, выкрываючы розныя махінацыі імпэрыялістых, іх агентуру, партыя павядзе рабочую клясу і працоўнае сялянства на штурм трэцяга году пяцігодкі, на штурм новых тэмпаў, за канчатковую перамогу сацыялізму.

**М. Шмідт.**

**„Асноўная установка партыі ў даны момант заключаецца ў пераходзе ад наступленьня сацыялізму на паасобных вучастках гаспадарчага фронту да наступленьня па ўсяму фронту і ў галіне прамысловасьці і ў галіне сельскай гаспадаркі“.**

**СТАЛІН.**

# ДА ДРУГОЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ ВЯСНЫ

## Аб арганізацыі машынна-трактарных станцый у БССР

У мэтах разьвіцьця і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, узьняцьця яе на належную вышыню,—адзіным пэўным шляхам зьяўляецца шлях калектывізацыі і каапэраваньня дробных бядняцкіх і серадняцкіх сялянскіх гаспадарак у буйныя аб'яднаньні на сацыялістычных началах.

У залежнасьці ад ступені аграмаджаньня сродкаў вытворчасьці існуючымі формамі гэткіх аб'яднаньняў зьяўляюцца: т-вы па сумеснай апрацоўцы зямлі, с.-г. арцелі і, вышэйшай формай—с.-г. камуны.

Галоўнай цяжкасьцю калгаснага будаўніцтва ў сучасны момант зьяўляецца нізкі ўзровень тэхнічнай базы калгасаў. Таму стварэньне вышэйшых форм калектывізацыі, з найменшымі цяжкасьцямі, магчыма на падставе перадавой тэхнічнай базы, якой зьяўляецца машынна-трактарная станцыя.

Машынна-трактарная станцыя ёсьць энэргэтычны цэнтр рэканструкцыі сельскай гаспадаркі абслугоўваемага раёну, у выглядзе буйнага атраду мэханічнай цягавай сілы—трактароў, у колькасьці неабходнай для абслугоўваньня сельска-гаспадарчых вытворчых патрэб, арганізаванага ў калгасах і каапэрацыйных аб'яднаньнях насельніцтва, галоўным чынам у галіне паляводзтва.

Гэту задачу машынна-трактарная станцыя ажыцьцяўляе на дагаворных началах на падставе адпаведнага арганізацыйнага пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі данага раёну, складзенага з улікам усіх мясцовых асаблівасьцяй: характару мясцовасьці, глебы, гаспадарчага і агранамічнага напрамку, устанаўленьня тых ці іншых галоўных культур, якія будуць вытварацца ў раёне, з улікам налічча цягавай конскай сілы і пэрспэктывы яе выкарыстаньня.

Каб добра паставіць справу выкарыстаньня цягавай сілы трактароў у МТС, неабходна падабраць адпаведны прычапны інвэнтар, забясьпечыць працу трактароў належным адміністрацыйна-тэхнічным матар'ялам і выкарыстоўваць трактары на працах, адпавядаючых іх цягавай сіле ў пэўны час палявога пэрыяду.

Акрамя таго неабходна мець магчымасьць ажыцьцяўляць своечасовы і добраякасны рамонт, для чаго трэба мець адпаведна пабудаваную і абсталяваную трактарную майстэрню, склад запасных частак і матар'ялаў пры ёй. Для ажыцьцяўленьня сувязі з цэнтральнай базы МТС з атрадамі сваіх трактароў—дастатковую колькасьць аўтамабіляў і тэлефонную сувязь.

Пытаньне дастатковага і своечасовага забесьпячэньня гаручымі і змазачнымі матар'яламі таксама ня менш адказнае, чым і вышэй памянёныя, для чаго неабходна мець у цэнтры МТС дастатковай ёмкасьці нафтахавальнікі для гаручага і змазкі.

Але адным з самых галоўных пытаньняў добрай пастаноўкі працы МТС—гэта пытаньне кадраў, якія, пачынаючы ад трактарыста—руля-

вога і да дырэктара МТС, абавязаны быць сьвядомымі ў даручанай ім працы як з боку тэхнічнай, так і палітычнай падрыхтоўкі, пры чым агратэхнічны пэрсонал МТС будуе сваю працу такім чынам, каб забясьпечыць поўнае гаспадарчае абслугоўваньне раёну дзейнасьці МТС.

Увесь комплекс гаспадарчых пытаньняў МТС абавязан быць улічан вытворчым яе плянам з дастатковай яскравасьцю да моманту выхаду на працу—да часу вясеньняй пасеўнай кампаніі, каб у самай працы кіраваццa не выпадковасьцю абставін працы, а мець кірунак, адпавядаючы мэтам і задачам прызначэньня МТС—энэргетычнага цэнтру раёну, створанага для сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Мэтады працы МТС абавязаны быць пабудаваны, з аднаго боку, на падставе норм выпрацоўкі і правіл унутранага распарадку і, з другога боку, на падставе прыстасаваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва на самой справе, а ня толькі на словах. Таксама амаль абавязковым зьяўляецца і прыстасаваньне прэміраваньня пэрсаналу: 1) за выкананьне і перавыкананьне ўстаноўленых норм выпрацоўкі, 2) эканомнае выдаткаваньне гаручага і 3) за добрае ўтрыманьне машын, абсталяваньне інвэнтару.

Увесь час працы МТС, усякага роду арганізацыйныя, гаспадарчыя і іншыя мерапрыемствы, пачынаючы з вытворчага пляну і разьмеркаваньня ўсіх работ—трэба шырока абгаварваць на вытворчых нарадах, з удзелам як усяго пэрсаналу МТС, так і калгасьнікаў, рабочых прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый і асьвятляюць як у мясцовым, так і цэнтральным друку.

Трэба як мага больш прыцягваць увагу ўсёй савецкай грамадзкасьці раёну да працы МТС такім чынам, каб МТС знаходзілася ў цэнтры ўвагі гаспадарчага жыцьця раёну.

Пытаньне мабілізацыі сродкаў мясцовага насельніцтва на МТС таксама вельмі адказнае і добра будзе вырашана ў тым выпадку, калі будзе мабілізавана ўвага працоўнага насельніцтва да стварэньня МТС, як сапраўднага змагара за сацыялістычную перабудову вёскі і калі праца МТС і з эканамічнага боку будзе на належнай вышыні.

Добрае разьвязаньне пералічаных асаблівасьцяй і абставін будуемых у БССР машынна-трактарных станцый будзе спрыяць далейшаму разгортваньню калектывізацыі, так і ўзьняццю на належную вышыню дабрабыту тых аграмаджаных гаспадарак, якія машынна-трактарнымі станцыямі трэба будзе абслужыць.

**Скіба.**

**„... Справа стварэньня і замацаваньня МТС павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і савецкіх арганізацый“.**

**(З пастановы ЦК УсеКП(б).**

# Кароткае паведамленьне Калгасцэнтру СССР аб складаньні вытворчых плянаў калгасаў на 1931 г.

## Як складаецца і зацьвярджаецца плян

Замацаваньне і далейшае разьвіцьцё калектывізацыі залежыць ад правільнай калгаснай вытворчасьці, ад поўнага і прадукцыйнага скарыстаньня зямлі, аграмаджаных сродкаў вытворчасьці (цягавая сіла, інвэнтар і г. д.) і працы калгасьнікаў. Каб дасягнуць гэтага трэба каб кожны калгас арганізаваў сваю работу па пляну, своечасова прадуманаму і ўхваленаму ўсімі калгасьнікамі.

Складаньне вытворчага пляну ў калгасе зьяўляецца адным з важнейшых мерапрыемстваў па ўцягненьні новых сялянскіх гаспадарак у калгасы. Калгасная сыстэма павінна ўзяць такія тэмпы, якія забясьпечылі-б выкананьне дырэктывы XVI зьезду партыі па ўцягненьні ў калгасы ў 3 год пяцігодкі ня менш палавіны ўсяго ліку гаспадарак СССР.

Такі прыліў сялянскіх гаспадарак у калгасы можа быць толькі пры ўмове ўпартай работы кожнага калгасу і калгасьніка па наладжаньні гаспадаркі калгасу, падвышэньні вытворчасьці працы і таварнасьці гаспадаркі і давядзеньні на справе пераваг калгасу перад індывідуальнай гаспадаркай.

Калгасы складаюць гадавы вытворчы плян, у якім прадугледжваецца ўся дзеяльнасьць калгасу, з 1 студзеня 1931 г. да 1 студзеня 1932 г.

На аснове гадавога вытворчага пляну складаюцца практычныя рабочыя пляны:

а) вясеньняга севу;
б) на пэрыод полкі і сенакосу;
в) на ўборку ўраджая і малацьбу;
г) на вясеньнія работы і
д) на зімні пэрыяд.

Апрача таго, у кожным калгасе, да тэрміну рэалізацыі ўраджаю складаецца плян здачы (продажу) таварнай прадукцыі дзяржаве.

Перад складаньнем вытворчых плянаў калгасы атрымліваюць ад райкалгассаюзу (райкалгассэкцый) наступныя кантрольныя заданьні:

1. Разьмер пашырэньня плошчы пасеву, з паказаньнем паасобку колькасьці гектараў пашырэньня плошчы за лік асваеньня новых зямель.
2. Разьмер пашырэньня пасеву культур, якія маюць прамыслова-таварнае значэньне ў раёне, або кармовых для забясьпечаньня кармовай базай жывёлагадоўлі.
3. Разьмер насенфонду на забясьпечаньне плошчы пасеву ў 1931-1932 г.
4. Разьмер павышэньня ўраджаю пад паасобныя культуры.
5. Павялічэньне пагалоўя жывёлы.
6. Засеў культур на сілас і забясьпечаньне сіласу пабудовай сілосных веж, падрыхтоўкай ям, траншэй.
7. Які павінен быць уведзены аграмінімум і зоовэтмінімум.
8. Колькасьць унясеньня мінэральных угнаеньняў і вапнаваньня.
9. Набыцьцё інвэнтару, пераабсталяваньне і пабудова новых будынкаў гаспадарчага прызначэньня.

10. Разьмеры ўкладаньня сродкаў самога калгасу і магчымых крэдытаў.

Гэтыя заданьні калгасы папярэдне абгаварваюць на агульным сходзе. У выпадку нязгоды паміж пастановай агульнага сходу і райкалгассаюзам па разьмеры пашырэньня гаспадаркі ў 1931 г., кантрольныя заданьні зноў ставяцца на абгаварэньне райкалгассаюзу.

Калгасы павінны старацца перавыканаць заданьні райкалгассаюзаў, скарыстоўваючы найбольш поўна цягавую сілу, інвэнтар і працу калгасьнікаў.

Вытворчы плян калгасу павінен стаць сустрэчным плянам калгасьнікаў па выкананьні вытворчых заданьняў раёну.

Адказнасьць за правільнае складаньне вытворчага пляна ляжыць на кіраўніцтве (праўленьні). Аднак, каб вытворчы плян служыў практычным кіраўніцтвам у рабоце калгасу, ён павінен складацца самімі калгасьнікамі на аснове іх гаспадарчага вопыту. Для гэтай мэты прыцягваюцца найбольш адданыя і вопытныя калгасьнікі з усіх галін гаспадаркі, якія пад кіраўніцтвам праўленьня і з дапамогаю агранома складаюць вытворчы плян.

Намёткі пляну акуратна прапрацоўваюцца на вытворчых нарадах, у батрацка-бядняцкай групе (там, дзе яна арганізуецца) і са ўсім калгасным актывам. Потым вытворчы плян разглядаецца і зацьвярджаецца праўленьнем, пасьля чаго ставіцца на канчатковае зацьверджаньне агульнага сходу калгаса.

Па зацьверджаньні пляну агульным сходам ён уносіцца на зацьверджаньне райкалгассаюзу і райза.

Складаньне пляну калгасамі адбываецца з 1-га па 15-е студзеня.

Райкалгассаюзы павінны разгледзець і зацьвердзіць вытворчыя пляны калгасаў не пазьней 1 лютага.

## Склад працаздольных калгасьнікаў

Кожны калгас на раду з замацаваньнем наяўнага складу павінен паставіць перад сабою задачу прапрацаваць арганізацыйныя мерапрыемствы (масавая работа, садзейнічаньне рабоце ініцыятыўных груп і інш.) па далейшаму ўцягненьню новых членаў у калгас і арганізацыі новых калгасаў.

Вытворчы плян складаецца на наяўны склад калгаса. На ўноў-жа уцягненых членаў з іх зямельнай плошчаю і інвэнтаром складаюцца дадатковыя разьлікі за тыдзень да пачатку вясеньняга севу. У пляне ўлічваюцца ўсе працаздольныя калгасьнікі.

У вытворчым пляне вызначаецца колькасьць калгасьнікаў-адходнікаў, якія накіроўваюцца на работу на ўвесь год і па сэзонам.

## Плян пасеву, ураджай і сенакос

Складаючы разьлікі пасеўных плошчаў і сенакосу, неабходна намеціць землі, прыдатныя пад пасевы, распашку новых нескарыстаных зямель (аблога, цаліна і інш.), сенакос і выганы.

Пад пахаць павінны пайсьці і няпрыгодныя землі шляхам іх карэннага палепшаньня (асушка, абваднеьньне, раскарчоўка і інш.).

Для павышэньня ўраджайнасьці сенакосных і пасьвішчных угодзьдзяў намячаюцца мерапрыемствы па іх палепшаньні, як-та: баранаваньне, узорваньне і пасеў травяной мешанкі, ачыстка ад хмызьнякоў і інш.

Калгас павінен старацца аб'яднаць у адно месца ўсе ўваходзячыя ў яго склад землі, каб зьнішчыць праспалосіцу і мець магчымасьць разьмеркаваць пасевы паасобных культур у адным буйным масыве.

У новаарганізуемых калгасах праводзіцца простае земляўпарадкаваньне (зямляпаказаньне), старыя-ж калгасы, замацаваныя, якія абслугоўваюцца МТС, па магчымасьці праводзяць паглыбленае земляўпарадкаваньне з разьбіўкай тэрыторыі на ўгодзьдзі і палі севазвароту. Намячаемыя земляўпарадкоўчыя работы павінны быць папярэдне зацьверджаны Райкалгассаюзам.

Плян пасеву складаецца на аснове заданьняў раёну, абгавораных на агульным сходзе калгасьнікаў.

Вытворчы плян павінен прадугледжваць найбольшае павышэньне таварнасьці калгаснай гаспадаркі. Гэта дасягаецца шляхам скарачэньня другаразрадных малатаварных галін і культур у гаспадарцы.

Занадта вялікая колькасьць культур, як і арганізацыя вялікага ліку галін у гаспадарцы, вядуць да вялізных затрат, якія не заўжды аплачваюцца, і зьніжаюць таварнасьць калгасу.

У кожным калгасе агульная колькасьць культур, высяваемых у паляводзтве, не павінна перавышаць 12.

На вызначаныя па пляну плошчы пасеву вылічаецца, па нормам высеву (на 1-га), неабходная колькасьць насеньня. Як правіла, кожны калгас павінен забясьпечыць засеў вызначаных плошчаў сваім насенным матар'ялам. Недахоп насеньня можа быць папоўнены шляхам збору ў членаў, і толькі ў выпадку ўвядзеньня ў гаспадарку новых культур, калгасы могуць звярачацца за насеньнем у райкалгассаюзы.

Негатунковае насеньне павінна быць заменена гатунковым. Заяўкі на насеньне заўчасна падаюцца ў райкалгассаюз.

Улік насеньня для пасеваў на ўноў прыймаемых членаў устанаўляецца і насеньне ўносіцца пры прыёме іх у калгас, а ў пляне адзначаецца за *тыдзень* да вясеньняга севу.

У вытворчым пляне адзначаюцца ўсе неабходныя агратэхнічныя мерапрыемствы для падняцьця ўраджаю і палепшаньня палёў. Трэба бязумоўна дабіцца поўнага правядзеньня аграмінімуму, пералічанага ў форме вытворчага пляну, правільнага чаргаваньня культур і ўнясеньня неабходнага ўгнаеньня.

Пры складаньні пляну калгасьнікі вызначаюць колькі гною і іншых угнаеньняў патрабуецца для паасобных культур, якая колькасьць гною, кампосту і іншых угнаеньняў ёсьць у калгасе і колькі іх неабходна назапасіць у гаспадарцы.

Пры ўліку угнаеньняў пад пасевы ў полі, гародзе і для сада, неабходна ўлічыць гной, які ёсьць у гаспадарках калгасьнікаў. Як правіла, кожны калгасьнік павінен для грамадзкай гаспадаркі аддаць ня менш чым тры чвэрткі гною, які знаходзіцца ў аднаасабовай гаспадарцы.

На мінэральныя ўгнаеньні заўчасна падаецца заяўка райкалгассаюзу.

Аднначасна з унясеньнем угнаеньняў у шэрагу калгасаў (дзе гэта неабходна) павінна ўжывацца вапнаваньне. Вапнаваньне робіцца па пляну, узгодненаму з райкалгассаюзам.

У вытворчы плян устанаўляецца тэрмін вывазу гною і колькасьць яго пад паасобныя культуры.

У адпаведнасьці з правядзеньнем агратэхнічных мерапрыемстваў можа быць вызначана ўраджайнасьць з аднаго гектара і па ёй улічваецца натуральны валавы збор на 1931 г. Кожны калгас павінен забясьпечыць к канцу 1931 г. павышэньне ўраджайнасьці ня менш чымся на 60 проц. у параўнаньні з аднаасобнымі сялянскімі гаспадаркамі.

З атрыманага ўраджаю калгасьнікамі вызначаецца неабходная частка для здачы (продажу) дзяржаве праз каапэрацыйныя арганізацыі, пакідаюць насеньне для пасеву на наступны год, выдзяляецца фураж для абагуленай жывёлы, страхавыя насенфонды. Рэшта пойдзе для разьмеркаваньня паміж членамі і для адлічэньня ў абагуленыя фонды. Парадак разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі ўстанаўляецца агульным сходам у пэрыяд уборкі ўраджаю. У аснову разьлікаў з калгасьнікамі кладуцца толькі колькасьць і якасьць працы, патрачанай калгасьнікам або сям'ёй калгасьніка.

З мэтай падняцьця вытворчасьці працы калгасьнікаў на ўсе работы ўстанаўляюцца пэўныя нормы выпрацоўкі на аднаго калгасьніка. На аснове гэтых норм выпрацоўкі і расцэнкі работ у працаднях усе работы выконваюцца зьдзельна.

Для палёгкі ўстанаўленьня норм выпрацоўкі калгасцэнтрам даюцца прыкладныя нормы, але ў кожным раёне, стасоўна да мясцовых умоў і на аснове ўліку вопыту работы лепшых калгасаў, лепшых брыгад і калгасьнікаў і дасягнутай імі выработкі ў рэзультаце правядзеньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, выпрацоўваюцца кожным калгасам свае нормы.

Па ўстаноўленым нормам выпрацоўкі вызначаецца неабходны лік людзей, коняй і інвэнтару, патрэбных для калгасу.

У паляводзтве і лугаводзтве ўлік патрэбнай людзкой, цягавай сілы і інвэнтара складаецца па работам, якія пералічаны ў прыкладнай форме вытворчага пляну. Паказаныя ў форме назвы работ могуць дапаўняцца ў залежнасьці ад мясцовых умоў.

Калгас павінен разьлічваць на найбольшую загрузку і скарыстаньне машын і прылад, якія ў яго маюцца. Пры складаньні заявак на новы інвэнтар трэба кіравацца наступным:

1) поўнасьцю замяніць сохі, касулі, сабаны—плугамі;
2) драўляныя бароны замяніць жалезнымі;
3) забясьпечыць пасеў радавымі сеялкамі;
4) рэшту інвэнтара замяніць у залежнасьці ад зношваньня.

Увесь неабходны інвэнтар павінен быць не пазьней чымся за 10 дзён перад пачаткам работ адрамантаваны і забясьпечаны запаснымі часткамі. Не чакаючы атрыманьня запасных частак, калгас прымае ўсе неабходныя меры да вырабу іх на месцы і да прывядзеньня інвэнтара ў прыгодны для работы стан.

### Арганізацыя жывёлаводзтва

Разьвіцьцю аграмаджанага жывёлаводзтва калгасам неабходна аддаць асаблівую ўвагу.

Улічваючы наяўны склад пагалоўя аграмаджанай жывёлы, калгас намячае ў пляне павялічэньне жывёлы за год ад прыплоду, шляхам пакупкі і аграмаджаньня. Як агульнае правіла, калгас пашырае статак за лік адбору прыплоду ад найбольш прадукцыйнай жывёлы.

Для забясьпечаньня жывёлы кармамі і палепшаным утрыманьнем у пляне намячаюцца пасевы кармовых культур, сіласаваньне, прыстасаваньне скотных двароў або новае будаўніцтва.

Адначасна з аграмаджаным стадам калгас абавязаны аказаць дапамогу членам у разьвіцьці і палепшаньні іх аднаасабовага жывёлаводзтва. Апошняе, па магчымасьці, забясьпечваецца неабходнымі кармамі на зімні пэрыяд, выганам для летняга выпасу, палепшанымі вытворцамі для злучкі жывёлы, з умовай здачы (продажу) дзяржаве праз калгас пэўнай колькасьці таварнай прадукцыі жывёлаводзтва.

Па догляду і ўтрыманьню жывёлы ўстанаўляецца нагрузка на калгасьніка, і вызначаецца лік галоў на адзін дзень, па якой і ўлічваецца неабходная колькасьць работнікаў.

Пры арганізацыі працы ў жывёлаводзтве неабходна выходзіць з замацаваньня на рабоце па догляду за жывёлай паасобных калгасьнікаў на працягу ўсяго году, што будзе дапамагаць ня толькі павышэньню якасьці догляду і вытворчасьці працы, але павысіць прадукцыйнасьць жывёлы ў калгасе.

У мэтах падняцьця прадукцыйнасьці жывёлаводзтва калгас павінен правесьці наступныя зоотэхнічныя мерапрыемствы:

1) выходзячы з гаспадарчых магчымасьцяй і наяўнасьці кармоў павінна быць уведзена кармленьне жывёлы па нормам, у адпаведнасьці з жывой вагой і прадукцыйнасьцю жывёлы;

2) уцяпліць скотныя двары і ўтрымліваць іх у чыстаце;

3) аддзяліць маладняк ад дарослай жывёлы, вызначыўшы ім асобны догляд і ўтрыманьне;

4) наладзіць улік прадукцыйнасьці кароў, птушак і г. д.;

5) не дапушчаць маладняка ў злучку раней установленага ўзросту (для авечак не маладзей $1^1/_2$ г., кароў—2 г., сьвіней не маладзей 9 месяцаў і г. д.);

6) злучку рабіць па магчымасьці ўручную;

7) устанавіць асобны догляд і нагляд у часе ацёлу і апаросу;

8) захварэўшую жывёлу ізаляваць у асобныя памяшканьні;

9) рабіць рэгулярную дэзынфэкцыю памяшканьня;

10) навучыць калгасьнікаў догляду, кармленьню і ўтрыманьню ў чыстаце жывёлы.

Для ўсіх відаў жывёлы ў адпаведнасьці з установленымі нормамі кармленьня ўлічваецца гадавая патрэбнасьць у кармох. Улік вядзецца па трох пэрыядах: 1) зімні з 1 студзеня да выхаду на пашу; 2) летні пасьвішчны; 3) зімні—з пастаноўкай у хлеў да 1 студзеня. Пры ўліку кармоў у трэцім пэрыядзе трэба зрабіць так, каб астача кармоў забясьпечвала жывёлу ў 1932 г. да выхаду на пашу.

З мэтай папаўненьня кармовых запасаў у вытворчым пляне намячаецца закладка сіласу, для чаго выкарыстоўваецца бацьвіньне (бурачнае, бульбяное і г. д.), сьмяцьцёвыя травы, атава, дрэўныя лісьці і высяваюцца спэцыяльныя культуры для сіласу (кукуруза, сланечнік, гарбузы, віка-аўсяная мешанка).

Кожны калгас павінен імкнуцца да поўнага выкананьня кантрактацыйных умоў і максымальнай здачы (продажу) таварнай прадукцыі дзяржаве. Разьмеры здачы ўстанаўляюцца на агульным сходзе калгасьнікаў і ўносяцца ў плян.

## Спэцыяльныя галіны

Разам з асноўнымі галінамі—паляводзтвам і жывёлаводзтвам—у калгасах, асабліва прыгарадных, важнае значэньне набывае разьвіцьцё аграмаджанага гародніцтва, а ў некаторых раёнах садоўніцтва і вінаробства. Усе гэтыя галіны адзначаюцца калгасам як высокатаварныя і прадукцыя здаецца (прадаецца) дзяржаве на аснове кантрактацыі. Па прыкладу паляводзтва ў гэтых галінах устанаўліваюцца нормы выработкі і па ім адбываецца ўлік затраты людзкой і цягавай сілы. Пералік работы ў форме вытворчага пляну даецца толькі па асноўным відам і пры разьліках можа быць дапоўнены.

Адначасна з гэтым калгасьнікамі намячаюцца аграмерапрыемствы па догляду за садамі і гароднымі культурамі (барацьба са шкоднікамі, ачыстка ад сьмяцьця і г. д.).

## Гаспадарчае будаўніцтва

У адпаведнасьці з вытворчай праграмай разьвіцьця паляводзтва, жывёлаводзтва і іншых галін калгас намячае гаспадарчае будаўніцтва. Пры уліку неабходнага будаўніцтва ў калгасе на працягу года ў першую чаргу ўлічваюцца магчымасьці пераносу часткі будынкаў членаў па дагаворанасьці з імі, перабудова і даабсталяваньне ўжо маючыхся будынкаў. У выпадку недахопу ў пабудовах, намячаецца новае будаўніцтва на аснове скарыстаньня мясцовых будаўнічых матар'ялаў.

Мясцовыя будаўнічыя матар'ялы павінны быць сваячасова нарыхтаваны і дастаўлены к будаўнічаму сэзону. Пры новым будаўніцтве, як і пры пераабсталяваньні старых будынкаў, калгас без папярэдняга ўзгадненьня з раёнам ня можа разьлічаць на набыцьцё дэфіцытных матар'ялаў.

Складаючы будаўнічыя праграмы, трэба мець на ўвазе, каб намечаныя пабудовы адпавядалі як па разьмерах, так і па сваёй канструкцыі запатрабаваньням буйнай аграмаджанай гаспадаркі і лепшай тэхніцы догляду і ўтрыманьня жывёлы.

## Мабілізацыя сродкаў калгаса і калгасьнікаў

Асаблівая ўвага павінна быць удзелена ўцягненьню сродкаў калгасьнікаў і мабілізацыі ўнутрыкалгасных рэсурсаў. Сродкі калгасьнікаў прыцягваюцца ў першую чаргу на сумесна правадзімыя з калгасам мерапрыемствы, як-та: арганізацыя сіласа для аграмаджанай жывёлы, сумесная пабудова скотных двароў, набыцьцё вытворцаў і іншыя.

Апрача таго, прыцягваюцца грашовыя сродкі калгасьнікаў у выглядзе ўкладаньняў і іншых цэлявых узносаў. Неабходна скарыстаць магчымасьці атрыманьня сродкаў шляхам арганізацыі работ калгаса на старане (лесараспрацоўкі, вываз і інш.), а таксама большага выдзяленьня адходнікаў, асабліва ў зімні пэрыяд і ў іншыя пэрыяды, калі праца ў гаспадарцы скарыстоўваецца ня поўна.

У вытворчым пляне калгас павінен паказаць расходваньне недзялімага фонду, адлічанага ў 1931 г. Сродкі недзялімага фонду павінны скарыстоўвацца на капітальныя ўкладаньні, пакупку машын, вытворцаў, матак кароў і сьвіней, на пакрыцьцё завінавачанасьці і г. д. Аграмаджаныя фонды, адлічаныя ў 1930 г., скарыстоўваюцца ў суадпаведнасьці

з іх прызначэньнем на культурнаасьветныя патрэбы (хаты-чытальні, газэты, курсы і г. д.), на ўтрыманьне непрацаздольных і інш.

Адлічэньні ад заработку адходнікаў у 1930 г. скарыстоўваюцца на вытворчыя патрэбы калгасаў, як і недзялімы фонд.

На 1930 г. павінны быць устаноўлены фонд для прэм'яваньня лепшых калгасьнікаў і брыгад у працаднёх і вызначаны парадак прэм'яваньня.

У пляне паказваецца разьмер расходаў на ўтрыманьне адміністрацыйна-праўленчага апарату, канцэлярыі і камандыровак.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на скарачэньне выдаткаў, на ўтрыманьне праўленьняў, уліковых і іншых платных упраўленчых работнікаў і канторы.

Трэба старацца, каб уліковыя работнікі і ўпраўленчы апарат былі з калгасьнікаў і аплачваліся па працадням у адпаведнасьці з дастаўленым парадкам разьмеркаваньня ўраджаю і прыбытку калгасу.

## Нормы выработкі

Аднэй з галоўнейшых частак вытворчага пляну зьяўляецца распрацоўка норм выработкі па ўсім відам сельскагаспадарчых работ. Распрацоўка норм выработкі павінна быць першай работай па складаньні вытворчага пляну.

Велічыня нормы выработкі залежыць ад шмат якіх умоў. Стан прылад і машын, шырыня іх захопу, іх спраўнасьць і тэхнічная прыдатнасьць да работы вызначае велічыню выработкі. Якасьць коняй, трэніроўка іх у вызначаных умовах і на вызначанай рабоце зьмяняе хуткасьць руху с.-г. прылад. Адсюль зьмяняюцца і нормы выработкі, нават на аднэй і тэй-жа рабоце. Урэшце розная падрыхтаванасьць і кваліфікацыя калгасьнікаў, здольнасьць арганізаваць работы прыводзяць да таго, што ў такую самую адзінку часу розныя калгасьнікі выконваюць розную колькасьць работы.

Рознастайны інвэнтар, цягі і іншыя ўмовы, у якіх прыходзіцца працаваць калгасам, не дазваляюць устанавіць аднолькавыя нормы выработкі для ўсіх калгасаў. Таму распрацаваныя Калгасцэнтрам СССР нормы выработкі зьяўляюцца арыентыровачнымі і могуць служыць толькі дапаможнікам пры распрацоўцы норм самім калгасам. Кожны калгас павінен мець свае нормы выработкі, распрацаваныя ў гаспадарцы і прыстасаваныя да асаблівасьцяй разьвіцьця свайго калгаса і становішча інвэнтара, цягі і г. д.

Пры вызначэньні велічыні норм выработкі трэба выходзіць з такіх разьмераў, якія могуць быць выкананы пры існуючых умовах калгасаў. Перш за ўсё трэба акуратна ўлічыць становішча інвэнтара, цягі, шчыльнасьць глебы і іншыя ўмовы і толькі пасьля гэтага прыступіць да ўстанаўленьня норм. Для станцыянарных работ або для работ, зьвязаных з якім-небудзь памяшканьнем, трэба заўсёды прымаць пад увагу яшчэ іх абсталяваньне. Напрыклад, мэханізаваныя скотныя двары і канюшні патрабуюць меншай затраты чалавечай энэргіі на пераноску кармоў і падачу вады. Значыцца, у іх адзін чалавек можа спраўляцца з абслугоўваньнем большай колькасьці галоўската, чымся ў неабсталяваных скотных дварох і канюшнях, дзе прыходзіцца ганяць на вадапой або падвозіць спэцыяльна ваду. Пры ўсіх умовах, складаючы

нормы вырабаткі ў калгасах, трэба раўняцца на лепшага работніка і лепшую брыгаду.

Усе нормы вырабаткі павінны быць акуратна прапрацованы на вытворчых нарадах і агульных сходах калгасьнікаў перш, чымся пачаць работу па складаньні вытворчых плянаў. Пры ўстанаўленьні норм вырабаткі трэба ўлічваць вопыт галоўным чынам тых калгасьнікаў, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў работах.

Складзеныя такім чынам нормы вырабаткі трэба на працягу года правяраць у часе працы. У выпадку якіх-небудзь адхіленьняў у бок памяншэньня ці павялічэньня трэба зараз-жа ўносіць у іх адпаведныя зьмены. Невыкананьне норм вырабаткі пры ўнясеньні папраўак, якія вынікаюць за лік зьніжэньня напружанасьці працы калгасьнікаў, ніякім чынам нельга прымаць пад увагу. Праверкі норм вырабаткі трэба рабіць на працягу ўсяго вытворчага году і па асобным сэзонам.

Ніжэй прыводзяцца арыентыровачныя нормы вырабаткі па асноўным сельскагаспадарчым работам.

## Ацэнка работ у працаднях

Ацэнка работ у працаднях вытвараецца для арганізацыі зьдзельшчыны і максымальнай зацікаўленасьці калгасьнікаў у выкананьні работ, патрабуючых рознай кваліфікацыі і розных затрат працы.

Да цяперашняга часу ў шмат якіх калгасах расцэнка работы ў працаднях вытвараецца так: устанаўляюцца нормы вырабаткі, потым адносяцца работы да таго ці іншага разраду, у залежнасьці ад цяжкасьці іх выкананьня і кваліфікацыі работніка. Толькі пасьля разьбіўкі работ на разрады і пералічэньне норм вырабаткі ўстанаўлялася колькасьць працадзён, якія належаць за выкананую работу (напр., узорваньне пяці гектараў, пасеў уручную і інш.) таму ці іншаму калгасьніку.

Такі парадак ацэнкі і ўлічэньня работ у працаднёх, апрача сваёй складанасьці, не дае якаснага ўяўленьня калгасьніку, колькі сапраўды выпрацоўваў працадзён і ці выканаў тую ці іншую работу,—гэта зьніжае зацікаўленасьць калгасьнікаў у выкананьні работы і вытворчасьці працы.

Калгасцэнтр лічыць неабходным зьмяніць гэты парадак і рэкамэндуе праўленьням калгасаў замест разьбіўкі работ на разрады вызначаць ацэнку работ проста ў працаднёх. Адначасна са складаньнем вытворчых плянаў і ўстанаўленьня норм вырабаткі на ўсе работы,—у гаспадарцы вызначаецца колькасьць залічаемых працадзён за выкананьне той ці іншай работы, напр., пасадка гектара бульбы—1²/₃ працадзён, поліва гектара ільну—9 ¹/₂ працадзён, намалаціць 40 цнт. зерня—дваццаць з чвэрткай працадзён і д. п.

Для палягчэньня такога роду разьлікаў і ўстанаўленьня ацэнак работ у працаднёх даюцца наступныя прыкладныя ацэнкі работ у працаднёх:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Узорваньне плугам „Сака“ | 1 гект. | ацэньваецца | 1 працд. |
| 2. „ адналямяш. плуг. без перадка | „ | „ | 1¹/₂ „ |
| 3. Пад'ём папару 2-лям. плугам | „ | „ | ³/₄ „ |
| 4. Баранаваньне 3-зьв. баран. у 1 сьлед | „ | „ | ¹/₆ „ |
| 5. Ручны пасеў зернавых культур | „ | „ | ¹/₈ „ |
| 6. Радавы пасеў зернавых культур 7 сашн. сеялкай | „ | „ | ³/₈ „ |
| 7. Радавы пасеў зерн. культур 11 сашн. сеялкай | „ | „ | ¹/₂ „ |
| 8. Ручны пасеў ільну | „ | „ | ³/₈ „ |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 9. | Пасадка бульбы па 1 лем. плугу і сахе | 1 гект. | ацэньваецца | $1^2/_3$ | праца. |
| 10. | Матыкаваньне і прарэджваньне коранилодаў | „ | „ | $9^1/_2-12^1/_2$ | „ |
| 11. | Праворваньне конным плятнэрам | „ | „ | $^3/_4$ | „ |
| 12. | Поліва ільну | „ | „ | $9^1/_2$ | „ |
| 13. | Жніво сярпом | „ | „ | 7 | „ |
| 14. | Касьба касой зернавых культур | „ | „ | $1^3/_4$ | „ |
| 15. | „ лабагрэйкай 24 колцы | „ | „ | $^1/_6$ | „ |
| 16. | „ жаткай—20 колцаў | „ | „ | $^1/_5$ | „ |
| 17. | „ снопавязалкай | „ | „ | $^1/_6$ | „ |
| 18. | Узорваньне бульбы плугам 1-лям. | „ | „ | 1 | „ |
| 19. | Выбарка бульбы пасьля плуга пры ўрадж. 10 цнт. | „ | „ | $9^1/_2$ | „ |
| 20. | Капаньне цукровых буракоў, абрэзка і ўкладка пры ўрадж. у 100 цнт. 1 гкт ацэньваецца | | | $26^1/_4$ | „ |
| 21. | Ручная выбарка і вязаньне ільна без сартоўкі | 1 гект. | ацэньв. | $11^1/_4$ | „ |
| 22. | Вязка, носка яравых зярновых пасьля жніва і ўкладка | „ | „ | 2 | „ |
| 23. | Малацьба азімых 4-конай малацілкай пры намалоце 40 цнт. | | ацаніўшы | 12 | пры намалоце |
| 24. | Малацьба азімых 8-кон. малац. | 75 „ | „ | 15 | „ |
| 25. | Малацьба яравых 4-кон. малацілк. | 50 „ | „ | 12 | „ |
| 26. | Штодзенны догляд за коньмі і канюх на | 15 гал. | „ | $^3/_4$ | працд. |
| 27. | Штодзенны догляд за каровамі 1 скотн. на | 6 „ | „ | $^3/_4$ | „ |
| 28. | Штодзенны догл. за даросл. сьвіньнямі і сьвінар. на | 30 „ | „ | $^7/_8$ | „ |
| 29. | Пасадка расады капусты і памідор | 1.200 шт. | „ | $^5/_8$ | „ |

Пры ўстанаўленьні ацэнкі ў працаднёх неабходна ўлічваць складакасьць і цяжкасьць выкананьня кожнай работы. У прыведзеным вышэй прыкладзе ўзорваньне аднаго гектара аднalямешным плугам патрабуе 2 дзён работы і ацэньваецца ў $1^1/_2$ працадні, а ўзорваньне аднаго гектара 2-лямешным плугам патрабуе аднаго дня работы і ацэньваецца ў $^3/_4$ працадня. Такім чынам, ня гледзячы на аднолькавы характар работы адзін гектар узорваньня ацэньваецца рознай колькасьцю працадзён. Але фактычна калгасьнікі, якія працуюць на аднalямешным і на двухлямешным плугу, за два дні работы атрымліваюць па аднолькавай колькасьці працадзён. Гэта атрымліваецца таму, што работа па ўтварэньні як аднalямешным, так і двухлямешным плугам патрабуе аднолькавай кваліфікацыі работнікаў, пры чым работа двухлямешным плугам менш напружаная, чымся аднalямешным.

Устанаўляючы ацэнкі работ у працаднёх, неабходна ўлічваць, каб работы цяжкія і вымагаючыя асаблівай звычкі і падрыхтоўкі, ацэньваліся ня вышэй, чымся ў 2 разы, у параўнаньні з работамі простымі і лёгкімі.

Для калгасьнікаў, якія заняты на работах, якія не нармаваны і ня могуць вытварацца зьдзельным парадкам, як-та: кіраўнікі галін, старшыня калгасу і інш., устанаўляецца колькасьць працадзён, якія яны атрымліваюць за месяц, тыдзень або за іншы час работы. Брыгады атрымліваюць дадатковую, якая ўстанаўлаецца агульным сходам, прыбаўку працадзён апрача той колькасьці, якую яны атрымліваюць нараўне з калгасьнікамі за выкананую работу.

Расцэньваючы такім спосабам усе работы, калгасы будуць мець расцэначны сьпіс, на аснове якога ў далейшым павінны вытвараць разьлікі з калгасьнікамі за прароблену імі работу.

Кожны калгас устанаўляе расцэнкі работ, выходзячы з асаблівасьцяй сваёй гаспадаркі, і ўводзіць іх толькі пасьля зацьверджаньня агульным сходам калгасьнікаў.

# КАМСАМОЛ НА ФРОНЦЕ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

## Маладыя энтузіястыя

*(Нарыс)*

### Шайтараўскія хутары

Рознакалёрныя чуткі пра Шайтраўскіх мужыкоў плавалі па ўсяму раёну. У якой суседняй вёсцы прападзе карова альбо зьбяжыць авечка— ідуць шукаць да шайтараўцаў. Кожны чамусьці быў упэўнены, што карова далей шайтараўскіх хутароў ня пойдзе і авечка не зьбяжыць. Сюды прыяжджала міліцыя, прыходзілі панятыя з суседніх вёсак, хадзілі па хатах, шукалі і нічога не знаходзілі, хоць добра ведалі, што скаціна ўведзена менавіта шайтараўцамі.

Хутары былі неспакойныя. Бывала, надыйдзе касьба, стануць сяляне лугі дзяліць, спрэчкі заводзяцца. Адзін ня згодзен, другі супроць, трэці імкнецца пабольш сабе сена прыдбаць. Старыя выйдуць наперад, праспрачаюцца цэлую раніцу, а потым, з наступленьнем поўдня, абвесьцяць перапынак да вечару. У такіх выпадках выхад знаходзіў які-небудзь кулачок як Мартыновіч. Ён проста купляў за дзьве чвэрці гарэлкі лепшую па якасьці сенажаць, а астатняя частка дзялілася пад яго-ж кіраўніцтвам.

Без гарэлкі і кулачных боек рэдка праходзілі сьвяты: асабліва славіўся пакроў дзень, калі пуставалі палі, сумавалі голыя паплавы і жоўтагрывая восень накідвала свой палог. Да сустрэчы такога сьвята рыхтаваліся загадзя тыдні за два. Упарта гналі самагонку, зьнішчаючы на гэтую справу дзесяткі пудоў хлеба.

І тым часам зусім ня многія сустракалі новы ўраджай са сваім хлебам. Жніво распачыналася раней тэрміну. Нівы ўгнойваць належным чынам ніхто і ня думаў. Жылі сабе шайтараўцы бурна, лаяліся між сабой, з суседзямі, бедната заганялася пад уплыў таго самага Яна Мартыновіча, які закручваў справы для сваёй кішэні.

Чаго толькі не рабілася на шайтараўскіх хутарох!.. Якія толькі чуткі ня плавалі пра шайтараўцаў па ваколіцах!..

### Зьявіліся камсамольцы

І моладзь з шайтараўскіх хутароў славілася на весь Боркавіцкі раён. Не праходзіла ніводнага сьвята, каб шайтараўскія хлопцы не пабузілі, не пабіліся з моладзьдзю суседніх вёсак. Згуртаванасьць і дружнасьць шайтараўцаў заўсёды забясьпечвала ім перамогу. Улетку-ж шайтараўская моладзь наладжвала напады на гароды, на сады, узбударажвала ўсю мясцовасьць.

Так праходзілі гады, мінаў час. Толькі ўлетку 1925 г. па раёну пракацілася новая нечаканая хваля. Райком камсамолу высунуў баявы лёзунг аб пашырэньні сеткі камсамольскіх ячэек. Рашэньне Райкому ня ня ўсюды прыветліва сустракалася. Кулацкія сынкі пускалі плёткі, што з організацыяй комсамольскіх ячэек канфіскуюцца гармошкі, выве-

дуцца з моды ўсялякія вечарынкі, а комсамольцы стануць спаць з дзяўчатамі...

Шайтараўскія хлопцы першыя не паверылі кулацкаму агітатару і далучыліся да прапановы райкому аб арганізацыі комсамольскай ячэйкі на іхніх хутарох. У некаторых хоць і была няўпэўненасьць адносна камсамолу, але хутка і гэтыя сьцерліся самым віраплынным жыцьцём.

Вестка аб зьявіўшыхся камсамольцах ластаўкай абляцела ўсе суседнія хутары і нават прылягаючыя вёскі.

## Доўгімі зімовымі вечарамі

У Шайтараве з арганізацыяй камсамольскай ячэйкі зьмянілася і моладзь. Праўда, некаторыя ў жыцьці разыходзіліся з камсамольскай праграмай, але потым і яны вышлі на гасьцінец агульнай упартай і дружнай работы.



Падрыхтоўка да вясновай сяўбы. Рамонт дзіскавай бараны.

Зьмест прывадзімых вечарынак пачаў з кожным днём мяняцца. Камсамольцы выпрацавалі свой плян, згодна якога вызначалася, каб вечарынкі абыходзіліся бяз п'янкі і кулачных боек. Ім на зьмену прышлі новыя скокі, гульні, баявыя задорныя сьпевы. Гарманіст Паўлюк адмовіўся браць плату за гульню на гармоніку, ён лічыў, што такі ўчынак не адпавядае камсамольскаму статуту...

Наступілі новыя дні, напоўненыя камсамольскай работай, вучобай, чытаньнем кніг. Доўгімі зімовымі вечарамі камсамольцы дасягалі вышынь мудрасьці палітграматы, вялі жорсткія спрэчкі на тэму, што будзе праз дзесятак год, калі ўзрасьце цьвёрды грунт сацыялізму.

Памятаецца, як зараз. У Зьмітрака Шыманскага, самага моцнага па ўсім пытаньням камсамольца і сакратара ячэйкі, зьбіраюцца хлопцы.

За сьценамі хаты злосна сьпявае завіруха, гулка трашчыць мароз. Шыбы пасьлепаватых вакон разубраны самымі дзівоснымі ўзорамі. У кутку мізэрным сьвятлом мільгае газьніца. Хлопцы зышліся і прапрацоўваюць другую частку палітграматы Яраслаўскага.

— Хлопцы!—раптам зварачаецца да камсамольцаў Зьмітрок,—а што, калі мы рызыкнем ды з хутароў арцель арганізуем? Ахвотнікі знойдуцца напэўна-ж...

Сядзеўшыя камсамольцы ад нечаканасьці зьдзіўлена пераглядваліся. Менавіта, тут камсамольцы павінны паказаць сваю сапраўдную сутнасьць. Хутка хата ажывілася маладымі галасамі. Заняліся абгаварваньнем прапановы Зьмітрака.

— Давайце паспрабуем. Пакажам, што мо' і мы ня лыкам шытыя...

— Задамо тон на ўсю ваколіцу.

## Гайда да Масквы

Другім-жа днём камсамольцы горача ўзяліся за ажыцьцяўленьне пастаўленай мэты. Бюро ячэйкі абыходзіла спачатку хаты камсамольцаў, з якіх павінен-бы заснавацца касьцяк калгасу. Тут-та і сустрэліся каменьні на дарозе. Бацькі камсамольцаў і слухаць не хацелі аб калгасным жыцьці.

— Калі хочаш—гаварыў бацька сыну Ляксею—дык забірай свае манаткі і каціся хоць к чорту, а мяне не давядзі да граху...

Тое-ж самае заявіў бацька з хаты Шыманскага, аблаяў прышоўшых камсамольцаў матам і выгнаў Зьмітрака. Нават сярод саміх камсамольцаў сустрэліся капітулянцкія элемэнты. Мікола, які лічыўся першым актывістым на ўсю ячэйку, штатным дакладчыкам, на пытаньне, ці пойдзеш у калгас, заявіў:

— Што вы, хлопцы! Хіба-ж можна сумнявацца ў маёй адданасьці камсамолу і мерапрыемствам савецкай улады? У калгас то, канешне, я пайду, але з маленькай умовай—рабіць запашку асобна і жыць на хутары, застаючыся ў шэрагах калгасьнікаў...

Кулацкія элемэнты тым часам зьбівалі глебу ў сваю карысьць. Пачалі праводзіць патаемныя сходы, павялі цэлую кампанію супроць камсамольцаў, бацькі гналі сыноў з хаты толькі за адзін напамінак пра калгас. У камсамольцаў і рукі апусьціліся ад няўдач. Занудзіліся, засумавалі хлопцы: як быць, каб не падарваўся аўтарытэт ячэйкі.

Якраз тут і падвярнуўся спрыяючы выпадак. Зьмітрака на акруговай канфэрэнцыі абралі дэлегатам на ўсесаюзны камсамольскі зьезд. Узрадвалася шайтараўская камсамольская братва. Зашумеў ячэйкавы актыў.

— Гайда, Зьмітрок, да Масквы! Пагавары там з кім належыць пра калгас, парайся, хай акажуць дапамогу хоць парадай добрай...

Праз два тыдні вярнуўся з Масквы сакратар ячэйкі, дэлегат восьмага зьезду камсамолу Зьмітрок Шыманскі. Адразу склікалі сход ячэйкі з дакладам сакратара.

— Так...—многазначна пачаў Зьмітрок прамову—зьезд вынес рашэньне, каб камсамол на вёсцы зьявіўся застрэльшчыкам калектывізацыі. Грош цана камсамольцу, які ня думае зрабіцца калгасьнікам і пляцецца ў хвасьце жыцьця. Мы зрабілі памылку, што не падрыхтавалі глебы для калгасу, а захацелі стварыць яго за адзін дзень. Спачатку патрэбна павесьці шырокую растлумачальную работу, арганіза-

ваць беднату, выкрыць сутнасьць кулацкіх плётак. Зразумела?.. Так мне сказала Масква...

І да позьняе ночы, да другіх пеўняў, абгаварвалі камсамольцы мэтады арганізацыі калгасу, марылі пра новае нязьведанае калектыўнае жыцьцё.

## Новы шлях

У пачатку 1929 г. шайтараўскія камсамольцы першыя па раёну арганізавалі калгас, якому далі назву „Новы шлях". Вестка аб стварэньні калгасу зьявілася грымотай на галовы кулацкім элемэнтам, якія напружылі ўсе сілы, каб не дапусьціць далейшага разьвіцьця калгасу.



Калгасьнікі-плотнікі атрымліваюць заданьне ад старшыні калгасу на наступны дзень.

І комсамольцам прышлося трымаць жорсткую бойку з клясавым ворагам. Зьмітрок на кожным сходзе рабіў напамінак хлопцам аб рашэньнях зьезду камсамолу, настойваў не паддавацца чужым уплывам. Хутка да камсамольскага калгасу пачалі далучацца і старыя хутаранебеднякі і маламоцныя сераднякі. Так, 60-гадовы серадняк Шыманскі Якуб першым замяніў сваю хутарскую гаспадарку на калектыўную. Яго прыкладу пасьледвалі і другія сяляне—беднякі пераважна.

У першую вясну калгасьнікі зрабілі калектыўную заворку, правялі яравыя засевы. Іх сіламі было засеяна 100 пудоў аўса, 600 пудоў бульбы, 7 гектараў ільну, 20 пудоў вікі, а ўсяго каля 200 гектараў. Атрымалі доўгатэрміновыя крэдыты на сельска-гаспадарчыя машыны, для будаўніцтва і пашырэньня калгасу. Пасьля зьняцьця новага ўраджаю арганізавалі чырвоны абоз і здалі хлебныя лішкі дзяржаве.

Восеньню-ж гэтага году маладыя калгасьнікі пасеялі 150 пудоў чыстагатунковага жыта, якое ўзышло раней чым у суседзяў-адзіна-

асобнікаў. Бачачы калгасную перамогу, у „Новы Шлях“ прышло новых 27 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, у тым ліку 7 беднякоў з суседняй вёскі.

Доўгі час шайтараўскія камсамольцы шукалі новых шляхоў, якія прывялі-б іх да жаданае мэты. І нарэшце знайшлі шлях, арганізаваўшы калгас з раскіданых сталыпінскіх хутароў.

У сучасны момант шайтараўскія камсамольцы лічацца першымі ўдарнікамі на ўвесь раён. Менавіта, дзякуючы камсамольцам калгас па-бальшавіцку правёў уборку новага ўраджаю, пасьпяхова закончыў асеньнюю сяўбу і вядзе падрыхтоўку да чарговай бальшавіцкай вясны.

Не дарма-ж калгасьнікі—новашляхаўцы—з гонарам заяўляюць, што:

— Камсамольцы—гэта сэрца нашага калгасу.

## Рапарт перамог

З часу восьмага камсамольскага зьезду, на які шайтараўскія камсамольцы пасылалі свайго дэлегата, зьмянілася аблічча шайтараўскай зямлі. Да дзевятага камсамольскага зьезду ініцыятары шайтараўскага калгасу пашлюць і яскравы рапарт перамог на калгасным фронце. У гэтым рапарце словамі ўсіх лічбаў адзначаецца канкрэтная работа па ломцы старыны, па зьнішчэньні сталыпінскіх і прышчэпаўскіх хутароў.

„Новы шлях“ налічвае зараз каля 200 калгасьнікаў. Агульная зямельная плошча блізіцца да 1000 *га*. Галоўны ўпор узяты на разьвіцьцё жывёлагадоўлі: маецца 91 карова, 30 падцёлкаў, 40 цялят, 150 авец, 52 коні. У сярэднім за адзін дзень паступае 300 літраў малака. Май месяц, напрыклад, мінулага году даў для перапрацоўкі 8.085 літраў малака, а чарговыя месяцы павялічылі гэтую лічбу да 10.000 літраў.

Калгас перайшоў на ўдарныя мэтады работы. Ствараемыя часовыя і сталыя рабочыя брыгады па заворцы, па сяўбе, па пакосу, па ўборцы, па догляду за жывёлай і іншым галінам, спраўляюцца з ускладзенымі абавязкамі. Правільная арганізацыя працы стварыла спрыяючыя ўмовы для далейшага разьвіцьця калгасу.

У 1930 годзе ўбрана каля 200 *га* яравых пасеваў і азімага жыта. Хлебныя лішкі здаюцца выключна дзяржаве. Восеньню пад зяб засеяна звыш 700 пудоў жыта. Пасеўная плошча пашырана на 40%.

З арганізацыяй калгасу павялічылася і даходнасьць калгасьнікаў. Так, бядняк Хадкевіч Канстантын з трыма працаздольнымі едакамі атрымлівае зараз звыш 800 рублёў гадавога даходу. Шырокім фронтам разгортваецца будаўніцтва. Для гэтай мэты адпушчана звыш 20.000 р. крэдыту. Цагельны завод даў 120 тысяч штук цэглы на рынак. Не адстаюць і другія падсобныя прадпрыемствы.

Камсамольская ячэйка лічыцца на ўдарным становішчы і з гонарам выконвае калгасны вытворчы плян. Заўважваецца вялікі прыліў дзяўчат і хлопцаў-калгасьнікаў. Ніводнае мерапрыемства не праходзіць бяз удзелу камсамольцаў. Вядзецца сацыялістычнае спаборніцтва з камсамольцамі другога калгасу.

* * *

Калгас „Новы Шлях“ сапраўды апраўдвае сваю назву, ідучы дарогай стварэньня гаспадаркі сацыялістычнай формы. І маладыя энтузіясты, камсамольская братва ідуць наперадзе, запальваючы адзіным імкненьнем працоўныя пласты сялянства.

**Тарас Хацкевіч і Сьпір. Міхальцоў**

# БЯЗБОЖНІКІ ЛЯ ВАРШТАТУ



На заводзе Карла Маркса арганізаваны з бязбожнікаў ударныя брыгады.

**На здымку: Ударная брыгада „Бязбожнік“.**

# ШЫРЭЙ ФРОНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

„ДА КАНЦА ПЯЦІГОДКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СССР У АСНОЎНЫМ ПАВІННА БЫЦЬ СКОНЧАНА“. СТАЛІН.

## Новы прыліў

Ня гледзячы на перагібы ў правядзеньні калектывізацыі па Шклоўшчыне на сёньнешні дзень маецца значны прыліў у калгасы, а таксама арганізацыя новых калгасаў на добраахвотных асновах.

Пасьля адліву ў арганізаваных калгасах астаўся касьцяк калгасьнікаў, якія поўнасьцю перашлі на шлях сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі, якія поўнасьцю перакаваліся ў выгаднасьці калектыўнай працы. За год працы ў калгасах бядняцка-серадняцкая частка паказала адзінаасобнікам перавагу калектыўнае працы.

Калгасы Шклоўшчыны, у якіх быў пастаўлены правільны вучот працы, правільнае разьмеркаваньне ўраджаю, як, напрыклад, „Барацьба“, „Камінтэрн“, калгасьнікам выходзіць у дзень 2 руб., а жанчынам па 70 кап. у сярэднім на кожны працоўны дзень, акрамя тых пераваг, што калгасьнік атрымлівае ўсе прадукты па цьвёрдай цане.

Усё гэта разам узятае паказвае аднаасобным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам перавагу калектыўнае працы. Зараз назіраецца прыліў і арганізацыя новых калгасаў. Прылілося 360 гаспадарак, і арганізавана 8 новых калгасаў з 130 гаспадарак, што складае калектывізацыю раёну на 10/XI-30 г. 1230 гаспадарак, або 13,3 проц. з 9 проц. 1929 году. Арганізацыя калгасаў і ініцыятыўных груп ідзе і далей, такім чынам дырэктыва калгасьнікаў да 1/I-31 году калектывізаваць раён да 20 проц. будзе выканана.

Праведзеная раённая канфэрэнцыя калгасьнікаў, батрацтва і беднаты дала актыў для далейшае калектывізацыі.

Зараз увага ўсіх працаўнікоў накіравана на ўзмацненьне калгасаў.

У зімовы час увага павінна быць накіравана на кармавую базу.

Заяўкі ў Райкалгассаюз з боку некаторых калгасаў, на дачу апошнім кармоў, гаворыць аб тым, каб рацыянальна скарыстаць тую кармовую базу, якая ёсьць. Патрэбна максымальная эканомія ў калгасах каб на вясну выйсьці з кармамі.

Кармовыя адзінкі павінны быць у кожным калгасе, адсюль аграномам і патрэбна наладзіць гэты бок працы.

Культурная праца ў калгасах яшчэ недастатковая. Ліквідацыя няпісьменнасьці, арганізацыя розных гурткоў у калгасах,—задачы ня толькі культпрацаўнікоў, а ўсіх арганізацый.

Г. Ш.

# Лічбы і факты

*(Калгас „1-га мая“ Магілеўскага раёну)*

**1930 год для калгасу быў** годам ня толькі карэннага пералому ў рабоце аб'яднаных гаспадарак, але і годам жорсткай барацьбы з той дробна-буржуазнай псыхолёгіяй, якая стагодзьдзямі прывівалася кожнаму селяніну, годам вынаходніцтва новых сацыялістычных форм працы ў сельскай гаспадарцы.

Аднак экзамін вытрыманы. 16 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак пасёлкаў Гаі і Сумарокі выйшлі пераможцамі. Перамагаючы шэраг цяжкасьцяй, як-та: абвостраная клясавая барацьба вакол калгасу, незямляўпарадкаванасьць гаспадаркі, адсутнасьць дастатковае колькасьці рабочай сілы і шэраг іншых прычын—маладыя калгасьнікі загартавалі сябе ў барацьбе за калгас і беспаваротна сталі на шлях пабудовы сацыялізму ў нашай краіне.



Падрыхтоўка да вясновай сяўбы ў калгасе. Калгасьнік рамантуе с.-г. машыны.

Будаваць новае жыцьцё пачалі з таго, што мелі гаспадаркі аб'ядналыя ў гэты калгас. 19 рабочых коняй, 17 абагуленых кароў, акрамя тых, што маюцца ў індывідуальным карыстаньні згодна статуту; некалькі сьвіней, увесь той просты інвэнтар, якім працавалі да ўступленьня ў калгас—вось асноўныя сродкі вытворчасьці, з якімі прыходзілася змагацца на калектыўных палёх.

Маючы ў наліччы 35 членаў працаздольных, 9 старыкоў, 6 падлеткаў і 18 дзяцей, калгасьнікі дружна прыступілі да правядзеньня першай бальшавіцкай вясны. Большасьць калгасьнікаў работалі не пакладаючы рук. Аднак былі і такія, якія ўхіляліся ад работы, рабілі прагулы і былі няўпэўнены ў сваёй перамозе. Ня гледзячы ні на якія

прычыны, калгас усё-ж з посьпехам выканаў задачы партыі і ўлады па правядзеньні ў 1930 г. вясеньняй пасеўнай кампаніі. У першую бальшавіцкую вясну было засеяна 50 *га* яравога кліну.

Яшчэ ня скончыўшы поўнасьцю ўборкі, калгас распачаў ударнымі тэмпамі абмалот і адгрузку сваіх лішкаў на дзяржаўныя нарыхтоўчыя пункты. Кантрольныя лічбы па здачы лішкаў калгас даўно ўжо амаль па ўсіх культурах перавыканаў. Калі плянам прадугледжвалася атрымаць ад гэтага калгасу 28 цэнт. жыта, дык ён здаў 48,6, альбо 172 проц. Аўсу патрэбна было здаць згодна пляну 34,4 цэнтн., а здадзена 39,7 цэнтн., таксама з перавышэньнем на 12 проц. Недавыканаў калгас заданьне па здачы бульбы. Плянам меркавалася атрымаць ад калгасу 28 тон, а здадзена 27,19 тон. Гэта недавыкананьне тлумачыцца тым, што Магілеўскі ваенвод адмовіўся прымаць, а другога нараду калгасу не паступала.

Паміма плянавых меркаваньняў калгасам здадзена гародніны 395 кілёграм, ільнанасеньня 296 кілёграм, не прыступіў калгас да выкананьня заданьня па здачы ільновалакна, якое роўна 12 цэнт. Гэта таму, што лён поўнасьцю яшчэ не падрыхтаван, аднак днямі апрацоўка ягоканчаецца і заданьне будзе выканана.

Прыкладам зьяўляецца калгас для адзінаасобнікаў і ў галіне мабілізацыі грашовых рэсурсаў. Было налічана падаткаў 149 р, 87 к., страхоўкі 288 р. 07 к. і ўсё гэта здадзена датэрмінова. Запазычнасьць па крэдыту ў суме 445 р. 40 к. калгас унёс да капейкі.

Пералічаныя вышэй лічбы і факты цалкам пацьвярджаюць, што калгас зьяўляецца моцнай апорай партыі і ўлады на вёсцы.

**Семянкоў.**



Аднаасобнік падае заяву аб уступленьні ў калгас. Калгас „Новы Шлях“.

# Жанчына ў калгасе

Вынікі гадавой працы калгасьнікаў паказалі адзінаасобнікам пераваґу калектыўнага жыцьця над індывідуальным. Тыя ўдовы жанчыны і батрачкі, якія знаходзіліся ўвесь час у кулацкай кабале і якія ўвесь час пакутвалі ад недахопу хлеба і бульбы, у калгасе знайшлі сабе выхад да лепшага жыцьця. Жанчына ў калгасе атрымлівае, за працу столькі колькі і мужчына. Калі жанчына ідзе баранаваць, араць—яна атрымлівае тую стаўку, якую і мужчына. Возьмем для прыкладу жанчыну ўдаву бяднячку Печанькову Вольгу, якая да калгасу адчувала недахоп хлеба і бульбы і іншых прадуктаў. Часта траплялася, што дзеці былі бяз хлеба, асабліва вясною. Печанькова ўвайшла ў калгас „Чырвоны Кастрычнік“ з пачатку арганізацыі. Год працавала разам з сваімі дзецьмі, і пры разьмеркаваньні ўраджаю атрымала наступнае: 95 пуд. хлеба (жыта), 50 пуд. аўсу, 35 пуд. ячменю, 10 пуд. пшаніцы, 465 пуд. бульбы і 141 руб. грашмі.

Печанькова Вольга мае 8 душ, якія таксама дапамагалі працаваць. Усяго прапрацована 1230 дзён. Гэта норма яшчэ не канчатковая, магчыма што будзе больш—„Хіба-ж я цяпер калі-небудзь выйду з калгасу“,—кажа Печанькова,—„і сабе хопіць есьці і будзе пракарміць кабанчыка на сала. Хопіць аўса для субару і бульбы для яго“.

Вось другі прыклад, што атрымала батрачка ў гэтым самым калгасе Галаўнёва Ганнэ. Усяго ёю прапрацована 148 дзён. Пры разьмеркаваньні ўраджаю ёй прышлося: 15 пуд. жыта, 7 пуд. аўса, 5 пуд. ячменю, 5 пуд. пшаніцы, 70 пуд. бульбы і 20 руб. грашыма.

Вось трэці прыклад, што атрымаў Блашкоў Ляксей прапрацаваўшы год у калгасе „Пэўны шлях“: жыта—105 п., аўса—185 п., ячменю—63 п., пшаніцы—15 п., бульбы—870 п. і грашыма 113 р. Усяго ім прапрацована 1256 дзён 4-ма працаздольнымі мужчынамі. „Хіба я ўсё скарыстаю гэта?“—кажа Блажкоў, прыдзецца заставіць у агульны фонд лішкі“.

Вось гэтыя прыклады—упартая рэч, якія лішні раз даказваюць пэравагу калектыўнага жыцьця.

Зімовы час застаецца вальнейшым, дзе жанчыны змогуць ліквідаваць сваю няпісьменнасьць і яшчэ больш падняць прадукцыйнасьць працы. Сетка лікпунктаў па раёну павінна ахапіць у калгасах усіх няпісьменных жанчын і мужчын, гэта наша першачарговая задача.

**Г. Шумілаў.**

РАЗГОРНЕМ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА ПАМІЖ КАЛГАСАМІ НА ЛЕПШУЮ ПАДРЫХТОЎКУ ДА ДРУГОЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ СЯЎБЫ.



Батрачка і калгасьніца з Магілеўшчыны на Менскім Рабфаку.

„У АСНОВУ РАБОТЫ НАД СТВАРЭНЬНЕМ КАЛГАСНЫХ КАДРАЎ ПАВІННА БЫЦЬ ПАКЛАДЗЕНА ВЫЛУЧЭНЬНЕ НОВЫХ КАДРАЎ З МАСЫ САМЫХ КАЛГАСЬНІКАЎ“.

*(З пастановы XVI зьезду ЎсеКП(б).*

# ЗА САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЮ

„САВЕЦКІЯ І КАЛЕКТЫЎНЫЯ ГАСПАДАРКІ ПАВІННЫ ЗЬЯВІЦЦА ЦЭНТРАМ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ ПА ПАЛЯПШЭНЬНЮ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ“.

*(З пастановы пленуму ЦК КП(б)Б).*

## Выхаваньне цялят малочнай жывёлы

У сучасны момант, калі па ўсяму Савецкаму Саюзу ідзе шпаркім тэмпам перабудова ўсёй сельскай гаспадаркі і жывёлагадоўлі на сацыялістычны лад, калі раскіданыя дробныя бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі пераходзяць на калектыўныя формы жыцьця—у калгасы,— у галіне жывёлагадоўлі трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на правільнае выхаваньне і лепшы адбор маладняку малочнай буйнай рагатай жывёлы. Ад дрэннага ўтрыманьня цялят мы штогодна церпім вялікія страты.

Якасьць маладога растучага арганізму жывёлы галоўным чынам залежыць ад двух асноўных прызнакаў: 1) насьледчых задаткаў і 2) выхаваньня і ўходу.

Высьветлена, што добрых цялят можна атрымліваць толькі ад добрых бацькоў. Малочнасьць цёлкі залежыць ня толькі ад каровы, але і ад вытворніка. Неабходна, каб матка вытворніка давала многа тлустага малака. За межамі такія вытворнікі называюцца малочнымі альбо масьлянымі і яны каштуюць вельмі дорага.

Для павялічэньня прадукцыйнасьці і жывой вагі нашага беларускагаската, паляпшаючымі пародамі могуць быць: чырвоная беларуская, чырвона-дацкая, ангельская, чырвона-нямецкая, швіцкая і некаторыя іншыя. Трэба адзначыць, што так званы наш мясцовы беларускі скот з невялічкай дамешкай крыві чужаземных парод, мае добрых малочных кароў, якія пры правільным кармленьні і добрым утрыманьні, як гэта высьветлена на вучэбнай ферме Беларускай сельска-гаспадарчай Акадэміі—зьяўляецца вельмі каштоўнай жывёлай.

Акрамя насьледнасьці, вялікае значэньне мае кармленьне маладняку. Уплыў кармленьня на разьвіцьцё насьледных прызнакаў пачынаецца з моманту запладненьня. А таму аб цяляці трэба клапаціцца задоўга да яго паяўленьня на сьвет. За 1—2 месяцы да ацёлу, карова павінна атрымліваць у корм дадатковых 0,8—1 кілёграма мукі, якая неабходна для разьвіцьця цяляці. Бяз гэтай надбаўкі карова будзе худзець і пасьля ацёлу ня дасьць многа малака. Як бедная, так і надзвычайна багатае кармленьне цельнай каровы дрэнна адбіваецца на велічыні яе прыплоду, які родзіцца дробным і кволым. Лепш за ўсё такое кармленьне цельнай каровы, каб яна была ў сярэднім целе і мела-б добрае ўтрыманьне.

Даеньне кароў ад ацёлу да ацёлу аслабляе іх арганізм і пагаршае разьвіцьцё іх плада. Каб мець нармальна разьвіты маладняк і не

зьмяншаць у будучым удоі кароў, неабходна запушчаць іх да ацёлу ня менш, як за адзін месяц.

Навароджанае цялё ў малочных кароў важыць, у залежнасьці ад пароды, ад 24 да 40 кілёграмаў, складаючы ў сярэднім 7—9 проц. ад жывой вагі дарослых матак. Згодна дадзеных аддзелаў Жывёлагадоўлі Горацкай сельска-гаспадарчай Дасьледчай Станцыі, цяляты палепшанай мясцовай пароды, пры ўмераным кармленьні, к гадоваму ўзросту дасягаюць сярэдняй вагі 203—222 кілёграмы.

Як правіла, у зьявіўшагася на сьвет цяля абразаецца чыстым пожыкам пупавы канацік на адлегласьці 3—4 пальцаў ад жывата. Кроў з застаўшагася канаціка выціскаецца. Абмыўшы канацік чыстай гатаванай вадой (пажадана з карболаўкай), перавязваюць яго чыстай ніткай, трохі адступіўшы ад абрэзанага канца. Мордачка, вушы і рот абчышчаюцца ад сьлізі.

Цялё неабходна даць аблізаць карове. Калі карова цёлё не абліжа, дык яго трэба добра абцерці спачатку саломай, потым чыстымі мяккімі трапкамі насуха. Калі карова не аблізвае цялё, дык яе нельга прымушаць к гэтаму, пасыпаючы цялё мукой альбо сольлю: мука забівае поры кожы, а соль вытварае шкоднае ахаладжваньне.

Цяляты баяцца холаду, скразьнікоў і гразі, асабліва ў маладым узросьце. Ставіць іх трэба ў сухое цёплае і чыстае памяшканьне.

Ёсьць два спосабы вырашчваньня цялят: 1) пад маткай (падсосны спосаб) і 2) штучнае выпайваньне з вядра. Пры выхаваньні малочнагаската заўсёды практыкуецца другі спосаб.

Недахопы першага спосабу наступныя: 1) вырашчваньне абходзіцца надта дорага, бо цялё выпівае многа малака; 2) карова дае малака больш, чым патрэбна цяляці і цяляты могуць апівацца і хварэць мытам; 3) у некаторых малочных кароў цялё ня можа да чыста высасваць усё малако, з прычыны гэтага ў каровы можа здарыцца запаленьне вымя, і 4) пасьля адняцьця ад маткі цялё трудна прывучыць піць малако з вядра, а каровы, прывыкшыя к цялятам, нудзяцца бяз іх і зьмяншаюць удоі.

Гадзіны 2—3 пасьля зьяўленьня на сьвет цяляці нічога не даецца.

Цялят неабходна паіць малаком маткі ня менш 7—8 дзён. Пасьля можна даваць малако і ад другіх кароў. Ня трэба даваць цялятам піць малако залпам, у адзін прыём. Лепш, калі цялё п'е малако памаленьку. Нельга прымушаць цялё выпіваць усё малако.

Тлустае малако можа выклікаць мыт. Найбольш прыгодна для цялят будзе малако з 3½ проц. тлустасьці.

Жыўленьне цялят адным нязьнятым малаком дорага каштуе гаспадарцы, а таму звычайна з 4-га тыдня частка нязьнятага малака паступова замяняецца часткай зьнятага малака і часткай моцных кармоў.

Пры пераходзе ад нязьнятага малака к зьнятаму штодзенная замена вытвараецца ў колькасьці 0,5—1 клгр. малака. Разьмер сутачнай дачы аднаго зьнятага малака каля 6 клгр.

Па параўнаньні з нязьнятым малаком зьнятае малако мае меншую пажыўнасьць. Процант тлустасьці ў ім нязначны. Недахоп тлустасьці можна папоўніць моцным кормам, якім зьяўляецца, напрыклад, мука з ільнянога насеньня. Пераход ад скармліваньня нязьнятага малака к зьнятаму пажадана ўтвараць ня менш як 1½—2 тыдні.

Малако для выпайкі цялят павінна быць чыстае і цёплае (30° C). Каб цялё не прастудзілася і не захварэла жалудачнымі хваробамі, нельга паіць яго студзёным малаком. Зьнятае малако, якое атрымлі-

ваецца пры сэпараваньні зборнага малака на масларобчых заводах, вельмі часта бывае заражонае сухотнымі бактэрыямі, а таму можа быць шкодным для здароўя цялят. Лепей усяго, калі гэта малако на самым заводзе награваецца да высокай тэмпэратуры (пастэрызуецца). Пры падаграваньні заразныя мікробы гінуць, і малако досыць доўга ня псуецца.

Зьнятае малако зьяўляецца танным кормам. Пажадана яго скармліваць цяляці ня менш як да 4—6-месячнага ўзросту. Чым больш нязьнятага і зьнятага малака атрымае цялё, тым яно бывае буйней.

Дзякуючы недахопу і дарагоўлі нязьнятага малака, звычайна з 3—4 тыдня пачынаецца падкормка цяляці рознымі моцнымі кармамі. З гэтага часу цялят прывучаюць да аўсянкі, дробным пшанічным высеўкам, ільнянай макухі і мукі.

Пры замене нязьнятага малака зьнятым карысна даваць маладняку трохі размолатага ільнянага насеньня, якое спагадна дзейнічае на страўныя органы.

Праф. І. С. Папоў прыводзіць сьпіс кармовых мешанак, якія з посьпехам ужываліся пры выхаваньні цялят малочных парод:

1) авёс і высеўкі ў розных колькасьцях,
2) авёс цэльны і размолаты,
3) авёс, высеўкі і ільняная макуха,
4) авёс і кукуруза,
5) авёс, высеўкі і кукурузная мука,
6) высеўкі, кукурузная мука і ільняная макуха.

Сена даецца ўволю з таго моманту, калі цялё прывучаецца з зярновому корму. Грубы корм дапамагае правільнаму разьвіцьцю страўных органаў. Дробнае, мяккае, з маладымі лісточкамі сена, атрыманае з сухадольнай сенажаці, а таксама бабовае лічыцца самым лепшым грубым кормам для маладых цялят.

Траву і караньплоды можна даваць цялятам з 3—4-месячнага ўзросту. З гэтага моманту пажадана выганяць цялят на блізка ляжачы сухі выган. Пасьвіць на звычайных выганах трэба не раней як з 5—6 месяца. Паша пажадана багатая мешанай расьліннасьцю, якая, галоўным чынам, складаецца з злакаў і бабовых. Балоцістая паша шкодная. Пры дрэнных выганах пажадана падкармліваць цялят на працягу ўсяго лета, задаючы штодзенна ня менш $1-1^1/_2$ клгр. моцнага корму. Пры пасьбе на канюшыне і люцэрне трэба сачыць, каб цяляты не аб'еліся, бо тады ў іх робіцца ўздуцьце бруха (тэмпаныт) і цяляты могуць загінуць.

Каб папярэдзіць хваробу касьцей у маладняка, а таксама рахіт, патрэбна добрая паша на багатых вапнай кармох і стараннае зьнішчэньне хвароб кішак.

Пры кармох бедных вапнай трэба даваць цялятам з моцнымі кармамі фосфарна-кіслую вапну з крэйдай, пачынаючы ад $1^1/_2$ чайных лыжкі ў больш маладым узросьце і да 2-х лыжак каля году. Кухенная соль у невялікай колькасьці даецца з першых дзён зьяўленьня цяляці.

Трымаць цялят на прывязі ня трэба, бо яны нудзяцца і кепска растуць. Наогул чым больш цяляты ў руху ў маладым узросьце, тым яны лепш растуць. 6-месячнага ўзросту бычкоў неабходна аддзяляць ад цёлак, каб зьбегнуць перадчаснай злучкі.

Паіць і карміць цялят трэба ў строга вызначаны час. Пры парушэньні гэтага распарадку цяляты турбуюцца, чакаючы корма.

З пачатку здаровае цялё п'е малако маткі 3—4 разы ў дзень. Посуд, у якім задаецца малако і баўтушка, павінны быць чысты. Яго неабходна штодзенна мыць гарачай вадой з содай.

Цялят трэба паступова прывучаць да сябе, трэба клапаціцца аб стварэньні ў іх добрага нораву і адсоўваць усё тое, што псуе іх нораў, асабліва ў бычкоў. Ня трэба ніколі часаць ілба, патыліцы і наогул задніх частак галавы ў бычкоў, бо гэта разьвівае бадлівасьць. Неабходна заўсёды ласкава зварачвацца да цяля.

Пакідаюць на племя цялят, якія радзіліся ўвосень і з пачатку зімы. Яны звычайна бываюць больш буйныя, здаравейшыя, маюць лепшы апэтыт і добра растуць.

Больш падрабязна з выхаваньнем цялят можна пазнаёміцца, прачытаўшы кніжкі: 1) В. Бойка.—Як гадаваць цялё (на беларускай мове). стар. 40. Цана 10 кап. і 2) Д. Ельпатьевский—Выращивание телят и молодняка крупного рогатого скота (на расійскай мове). Стр. 78, Цана 30 кап.

**Е. Г. Сяржанаў.**

## Вырашаем проблему жывёлагадоўлі

Барысаўскі раён зьяўляецца раёнам жывёлагадоўчым. Гэтаму спрыяюць прыродныя і эканамічныя ўмовы. 33 тысячы гарадзкога насельніцтва патрабуюць ад раёну малака, мяса, жыроў.

Як гэтыя запатрабаваньні выконваюцца на справе. Паводле заданьня цэнтру к 1/I-31 г. па Барысаўскаму раёну павінна быць вылучана адна прыгародная малочная фэрма на 200 галоў жывёлы і 2 глыбінных малочныя гаспадаркі на агульную колькасьць у 200 галоў жывёлы. Усяго малочнай жывёлы павінна быць пастаўлена к 1/I-31 г. 400 галоў.

На самай справе мы маем на 20/XI-30 г. па раёну вылучаных прыгарадных малочных гаспадаркі 2 з агульнай колькасьцю малочнай жывёлы 277 штук.

Глыбінных малочных гаспадарак маем па раёну 6 з агульнай колькасьцю жывёлы 495 штук. Паводле заданьня цэнтру па раёну маецца перавыкананьне.

Калі-ж узяць пэрспэктыўны раённы плян, то ён выкананы на 64 проц. Некаторыя калгасы свае пэрспэктыўныя раённыя заданьні, дзякуючы ўдарным тэмпам у сваёй працы, перавыканалі. Напр., калгас „Шлях Сацыялізму", Метчанск. с.-с. выканаў заданьне па ўкамплектаваньню на 125 проц.

Агульным тормазам па ўкамплектаваньню жывёлы быў недахоп памяшканьняў. Але дзякуючы праведзенай працы па прыстасаваньню старых будынкаў, якія меліся ў колгасах, гэта цяжкасьць зжыта. Напр., калгас „Пралетарская Перамога", Зембінск. с.-с., які ня меў дзе паставіць сваёй жывёлы пасьля прыстасаваньня старых памяшканьняў паставіў 53 каровы і яшчэ засталося месца для цялят.

Амаль па ўсіх калгасах складзены кармовыя балянсы і адлічаны кармовыя фонды. Праўда, не ва ўсіх калгасах добра абстаіць справа з кормам. Калі ўзяць канцэнтраваныя кармы, як макуха, дык амаль усе калгасы патрабуюць завозу. З грубымі кармамі справа абстаіць трохі лепш, большасьць калгасаў забясьпечаны ў дастатковай меры.

Калгасьнікі першы раз на сваім жыцьці пачынаюць карміць сваю жывёлу па нормах. Для арганізацыі лепшай працы ў калгасах па жывёлагадоўлі ў раёне ў сьнежні і студзені м-цы мяркуецца арганізаваць паўтарамесячныя курсы жывёлаводаў на 25 асоб. Курсы будуць арганізаваны з лепшых калгасьнікаў, якія больш усяго зацікаўлены гэтай справай і будуць з ахвотай яе выконваць. Апрача гэтага па спэцыялізаваных калгасах аграномамі і вэтэрынарамі будуць прачытаны лекцыі ўсім калгасьнікам, як даглядаць і ўтрымліваць жывёлу.

**А.**

# Увага кармовай базе ў калгасах

З кармовай базы па Шклоўскаму раёну ў калгасах справа абстаіць надзвычайна напружана. Асабліва адчуваецца яна ў калгасах з жывёлагадоўчым напрамкам, а іх лічыцца чатыры: „Іскра“, „Ленін“, „Валадарскага“ і „Пражэктар“. Гэтыя калгасы даюць прадукцыі малака 40 проц. усяго пляну.

Арцель „Іскра“ дае 25 проц. кантрактаванага малака па пляну раёну—гэта 1905 літраў. Кантрактацыя малака ў індывідуальным сэктары вельмі слабая.

Для забесьпячэньня кантрактацыі малака, неабходна гэтыя калгасы забясьпечыць кармамі як грубымі, так і канцэнтраванымі. Для яскравасьці ўзяць арцель „Іскру“. Арцель мае 114 дойных кароў і 59 маладняку і 23 кані. Улічваючы норму кармоў на карову з разрахунку 6 цэнтнэраў (кармовая адзінка) аб'ёмістых кармоў. Перавёўшы на сена сярэдняй якасьці, значыць патрэбна будзе 2502 цэнтнэры. Акрамя гэтага на коняй патрэбна 360 цэнтн., значыць усяго арцелі „Іскра“ патрэбна 2862 цэнтн. кармоў. Усяго на сёнешні дзень у арцелі ёсьць сена 1400 цэнтн., саломы 500 цэнтн., што ў пераводзе на сена раўняецца 125 цэнтн., гэта значыць усяго 1525 цэнтн. Такім чынам недахоп кармоў выразіцца ў 1337 цэнтн. Таксама недахоп у кармох адчуваецца ў калгасе „Ленін“—800 цэнтн., „Валадарскага“—430 цэнтн.

Праўда некаторыя калгасы будуць мець лішкі кармоў, як арцель „Барацьба“, Брашчынскага сельсавету, „Камінтэрн“, Акунёўскага сельсавету і інш. Астатнія калгасы пры кармленьні па нормах максымальнай эканоміі могуць выйсьці з гэтага становішча.

Якія прычыны войстрага недахопу кармоў у калгасе „Іскра“. Яны заключаюцца ў тым, што арцель мае многа кароў, а зямельная плошча малая, ды к таму арцель не паклапацілася засеяць караньплодамі належнай плошчы.

Ці можна знайсьці выхад з гэтага становішча, каб забясьпечыць калгасы з жывёлагадоўчым напрамкам. Выхад заключаецца ў эканомным расходваньні калгасамі раёну кармовай базы, каб такім чынам знайсьці лішкі і забясьпечыць гэтыя калгасы. А гэтыя лішкі магчыма знайсьці. Патрэбна растлумачальная праца сярод калгасьнікаў у гэтым напрамку. Другі выхад гэта скарыстаньне торфу на падсьціл, каб такім чынам падсьцілку-салому скарыстаць на рэзку.

Ня лішняе будзе сказаць, што торфу для падсьцілкі ў Шклоўскім раёне магчыма было знайсьці, але з-за нядбайнасьці раённых устаноў гэта правалена, так як і месячнік торфу. Арганізаванае таварыства вёскі Мікалаеўка, Высоцкага сельсавету напярэдадні развалу, таму што

ня далі збыту апошняму. Таварыства арганізавана ўжо гады тры, але торф не скарыстоўвалі як для ўгнаеньня, так і для падсьцілкі.

Райкалгассаюзу патрэбна зараз зьнішчыць недахоп кармоў, каб сваячасова выйсьці з гэтага становішча, аднячасова Белмалжывёлсаюзу і Саюзхлебу выдаць што-небудзь згодна заявак, каб ня мець выпадкаў зьнішчэньня маладняку.

Г. Шумілаў.



У калгаснай лябараторыі.
(Калгас „Красный луч", Адэсшчына).

**„Пераход на шлях суцэльнай калектывізацыі ўсё новых і прытым буйнейшых раёнаў краіны вядзе ня тольні да сапраўднага ўздыму сельскай гаспадаркі—асноўных мас сялянства, але і кладзецца магільнай плітой на гніючыя пад цяжкай ступою мільёвных мас рэшткі капіталізму".**

**МОЛАТАЎ.**

# ЗА ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ

## К пытаньню барацьбы з пустым зернем аўса на асушаных балотах

Пра культуру аўса на асушаных балотах часта прыходзіцца чуць скаргі з боку насельніцтва, што авёс вырас вялікі, але зерне аказалася пустым. Такія зьявішчы наглядаліся на адных балотах з году-у-год, на другіх толькі ў некаторыя гады. Калі-некалі яно сустракаецца плямамі на адных частках і адсутнічае на другіх аднаго і таго-ж балотнага масыву. З апошнім выпадкам нам прышлося мець справу ў 1930 г. на Камароўскім дасьледчым поле Менскай Балотнай станцыі.

У 1929 г. на адным з вучасткаў Камароўскага балота быў пастаўлен досьлед па вывучэньні дзейнічаньня меднага купарвасу на ўраджай розных сартоў ячменю. На дасьледчых дзялянках, дзе быў унесен у парашковым выглядзе медны купарвас з разьліку 25 клгр. на гектар, атрымалася даволі значная прыбаўка ва ўраджаі зерня ў параўнаньні з дзялянкамі бяз меднага купарвасу.

Гэтая прыбаўка ўраджаю асабліва відавочна ў двухрадных сартох ячменю. Так, напрыклад, для сорту лебядзіная шыя па меднаму купарвасу быў атрыман ураджай зерня ў 3.525 клгр. на гектар; бяз меднага-ж купарвасу гэты ўраджай дасягнуў толькі 827 клгр. Такім чынам пры ўнясеньні меднага купарвасу была атрымана прыбаўка каля 2.500 клгр. зерня на гектар.

Яшчэ больш цікавыя вынікі былі атрыманы на гэтым вучастку ў 1930 г., але ўжо з культурай аўса. Авёс быў пасеяны па калі-фосфарнаму ўгнаеньню, пры чым медны купарвас у гэтым годзе ня ўносіўся, а вывучалася толькі дзейнічаньне яго. Праўда, у 1930 годзе былі вельмі няспрыяючыя для аўса ўмовы, у зьвязку з позьнімі замаразкамі. Адным з такіх замаразкаў былі зьністожаны ўсходы як на дзялянках з медным купарвасам, так і без яго. У далейшым зьявіліся новыя адросткі (пабегі) аўса і яны далі ўраджай.

Ужо да вучоту ўраджаю было яскрава прыкметна нормальнае разьвіцьцё зерня на дзялянках з медным купарвасам, што бязумоўна і выклікала яго паляганьне. На дзялянках бяз меднага купарвасу большасьць зерня была з мала разьвітай ці зусім неразьвітай зерняўкай.

Дзялянкі з медным купарвасам далі значную прыбаўку зерня па вазе. Пры гэтым выявілася, што ў сярэднім мяцёлка аўса па меднаму купарвасу дала 36 зёран, бяз меднага-ж купарвасу толькі 27. Вытворчы расклад на пустазернасьць даў цікавейшы вынік. У той час, як па меднаму купарвасу з 36 зерняў сярэдняй мяцёлкі ненармальна разьвілося толькі 6, бяз меднага купарвасу з 27 ненармальна разьвітых было 21. Такім чынам нармальна разьвітых зерняў па меднаму купарвасу сярэдняя мяцёлка давала 30, бяз меднага купарвасу—6. Лета 1930 г. было спрыяючым для вялікага зьяўленьня шведзкай мушкі на некаторых асушаных балотных масывах БССР.

Як вядома кужалка швэдзкай мушкі можа пашкоджваць зерняўкі аўса і гэтым выклікаць пустазернасьць. Ці магчыма гэту пустазернасьць аўса, меўшую месца ў 1930 г. на некаторых асушаных балотвых масывах, растумачыць толькі зьяўленьнем гэтага шкодніка. Па нашай думцы нельга. Вытворчы расклад мяцёлак аўса, з мэтаю растлумачэньня ступені пашкоджанасьці зерняў лялечкай швэдзкай мушкі даў наступны вынік:

| | Колькасьць мяцёлак для аналізу | Агульны лік зёран ва ўсёй мяцёлцы | Лік пашкоджаных зерняў | Пашкоджаньне ў % % |
|---|---|---|---|---|
| Па меднаму купарвасу ўнесена ў 1929 годзе | 60 | 2165 | 187 | 8,6 |
| Бяз меднага купарвасу | 79 | 2176 | 215 | 10.0 |

З прыведзенай вышэй табліцы відаць, што процант пашкоджаньня зерня аўса лялечкай швэдзкай мушкі як па меднаму купарвасу, так і без яго амаль аднолькавыя. Як відаць медны купарвас не выявіў дзейнічаньня на ступень пашкоджаньня. Гэта гаворыць за тое, што пустазернасьць аўса ў гэтым годзе не зьяўляецца цалкам вынікам пашкоджанасьці лялечкай швэдзкай мушкі.

І так, калі прычына выклікаючая пустазернасьць аўса зьяўляецца пакуль яшчэ недастаткова яскравай, дык сродак барацьбы з гэтым адмоўным зьявішчам відавочна маецца.

Вышэйпрыведзеныя даныя наконт зернят ў мяцёлках аўса па меднаму купарвасу яскрава падкрэсьліваюць гэту думку. Калі ня сьцьвердзіцца думка, што медны купарвас дзейнічае ў некалькі год, дык у ім мы бачым танны сродак барацьбы з гэтым зьявішчам.

**А. В. Зянюк.**

Балотная Станцыя.

# Вапна-серкавае злучэньне на замену сіняга каменю[1])

Парша і пладовая гніль—два асноўных грыбных паразіты ў садох БССР. Штогодна даволі значны процант ураджаю яблык і ігруш гіне ў нас ад пладовай гнілі, а таксама частка ўраджаю псуецца (пляміцца) паршою. Для прыкладу пашыранасьці гэтых хвароб у 1930 г. падам некаторыя папярэднія даныя Гомельскага наглядальнага пункту.

[1]) Гл. „Шляхі Калектывізацыі" № 5, № 6, 1929 г.

У саўгасе В. Брылёў, дзе знаходзіўся пункт, сады мелі даволі культурны выгляд і аднак гэтыя дзьве хваробы на пладох у час прыборкі мелі такое пашырэньне (у проц.).

| Сарты | Усяго падлічана пладоў | Плад. гніль | Плад. гніль парша | Парша | Усяго [1]) | | Пашкоджан. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Пашкод. | Здаров. | Плад. гнільлю | Паршаю |
| Антонаўка . . . . . . . | 2080 | 2,2 | 11,6 | 25,0 | 38,7 | 61,3 | 13,7 | 36,5 |
| Пэпін літоўскі . . . . . . | 2800 | 1,1 | 1,6 | 81,0 | 83,7 | 16,3 | 2,7 | 82,6 |
| Ранэт курскі . . . . . . | 2240 | 0,8 | 0,9 | 69,7 | 71,4 | 28,6 | 1,7 | 70,7 |
| Цітаўка . . . . . . . . | 1440 | 2,3 | 3,4 | 14,5 | 20,2 | 79,8 | 5,7 | 17,9 |
| Баравінка . . . . . . . | 1930 | 3,0 | 7,5 | 21,5 | 32,0 | 68,0 | 10,5 | 29,0 |

Як бачым з табліцы, пашкоджаньне пладоваю гнільлю хістаецца паміж 1, 7—13, 7 проц. Гэта частка ўраджаю лічыццца зусім страчанаю. Парша-ж пашкодзіла (сплямiла) плады ад 20,2 проц. да 82,6 проц. (пэпін). Зразумела, што якасьць гэтых пладоў значна зьніжаецца, яны ня могуць выходзіць на замежны рынак.

Барацьба з пладоваю гнільлю і паршаю ў садох сацыялістычнага сэктару заслугоўваюць, бязумоўна, сур'ёзнай увагі. У даным артыкуле падаюцца некаторыя дасьледчыя даныя і назіраньні аб выкарыстаньні вапна-серкавага злучэньня для барацьбы з паршаю ў 1930 г. Гэты фунгісід таксама вывучаўся і ў 1929 г. (гл. Шляхі Калект. № 5, № 6, 1929 г.) у мэтах замены бардоскай вадкасьці, куды ўваходзіць прывозны і дарагі сіні камень.

У даным разе ня буду застанаўлівацца на апісаньні і спосабе прыгатаваньня вапна-серкавага злучэньня, як фунгісіду. Таксама ня буду пералічваць і вынікаў апырскваньня саду гэтым фунгісідам у мінулым 1929 годзе. Аднак, перад аналізам вынікаў 1930 г. ня лішнім будзе коратка затрымацца на некаторых біолёгічных асаблівасьцях у пашырэньні паршы, з чым неабходна зьвязваць і тэхніку барацьбы з гэтым грыбком.

**Аб пашырэньні паршы ў садзе.** Досьледамі многіх вучоных давепдзена, што ў пашырэньні паршы вясною выключнае значэньне маюць аскаспоры. Дасьпяваюць яны ў апаўшым лісьці. Вясною, пры належнай цяплыні (каля 9—9,5°С), пасьля выпаўшых ападкаў (пладанашэньні грыбка), набухаюць і лопаюцца, а заароднікі (аскаспоры) і сумкі грыбка з сілаю ўздымаюцца ў паветра, каб заразіць толькі што разгортваючыяся лісьцікі яблыні ці ігрушы.

Разьлёт заароднікаў паршы пачынаецца намнога раней, чым разгортваюцца лісьці і кветкі пладовых дрэў і канчаецца праз 2—4 тыдні пасьля красаваньня. Кэйт і Джонс для штата Мадысон выявілі, што на працягу 6 год (1917—1923) аскаспоры паршы былі паміж 13—26 красавіка, а пачатак красаваньня сорта „здаровы", за той-жа час, паміж 3—18 мая.

Амэрыканцы Фрэй і Кэйт давялі, што лепшая цяплыня для прарастаньня аскаспор паршы ляжыць паміж 14—20°С. Апрача таго для

[1]) Для вучоту браліся 4 дрэвы кожнага сорту, з якіх адна трэцяя частка ўраджаю (прыблізна 30 клгр.) разьбівалася на здаровыя, гнілыя і пашкоджаныя паршаю.

заражэньня расьліны ў садзе, зароднікі паршы патрабуюць кропелек вады на працягу такога часу:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Пры | 6° | цяпла | 13—18 | гадз. |
| „ | 9° | „ | 9—11 | „ |
| „ | 15° | „ | 8— 5 | „ |
| „ | 20° | „ | 4— 6 | „ |

Ад вільгаці і цяплыні паветра таксама да некаторай ступені залежыць і праца інкубацыйнага пэрыяду паршы (час ад заражэньня аскаспорамі да зьяўленьня летніх зароднікаў або канідый).

| Цяплыня | Адносная вільгаць паветра | Інкубацыйны пэрыяд |
|---|---|---|
| 20°C | 80—90% | 8 дзён |
| 20°C | 50 „ | 10 „ |
| 20—25°C | 80 „ | 8—12 „ |

Наогул-жа для паршы працяг інкубацыйнага пэрыяду па Фрэй і Крэйту цягнецца да 17 дзён. Гэта асаблівасьць можа быць выкарыстана пры вызначэньні першага тэрміну летняга апырскваньня саду, калі зьяўляюцца канідыі паршы і адчыняецца другая крыніца для новай заразы лісьця і пладоў.

Ацэньваючы цяпер гэтыя дзьве крыніцы для пашырэньня паршы ў садзе: 1) заражэньне аскаспорамі вясною і 2) заражэньне летам ад канідый паршы, трэба адзначыць, што для пашырэньня заразы найбольшае значэньне мае веснавое заражэньне аскаспорамі.

Лік выкідваючыхся аскаспор і посьпех заражэньня, як ужо паказвалася, залежыць ад цяплыні, колькасьці і разьмеркаваньня ападкаў (канец красавіка і пачатак мая). Аднак, гэты посьпех заражэньня і пашырэньня паршы залежыць і ад расьліны. Адэргольд і інш. высьвятлілі, што маладыя яблынкі і ігрушы больш успрыймальны да паршы чым старыя дрэвы. Хэйт і Джонс паказалі, што ўсе вывучаемыя яблыні і ігрушы ў час вэгэтацыі праходзяць праз стадыю найбольшай успрыймальнасьці да паршы. Ва ўмовах штата Васконмы гэты пэрыяд бывае ад пачатку разгортваньня першых зялёных лісточкаў і тыдні 2—4 пасьля красаваньня. Пачатак гэтага пэрыяду найбольш небясьпечны.

Раньняе заражэньне вясною выклікае і раньняе зьяўленьне летніх канідый для новага заражэньня.

Такім чынам другі момант значнага пашырэньня паршы ўжо ад летніх канідый паразіта бывае пад восень, калі настае прахладная пагода і павялічваюцца ападкі. Але як першы, так і другі момант пашырэньня паршы натуральна патрабуюць папярэджваючага апырскваньня саду.

Досьледы і назіраньні 1930 г. На падставе ўсяго гэтага Фітапаталёгічны Аддзел Беларускай Зональнай Станцыі Аховы Расьлін у 1930 г. паставіў сабе задачаю высьвятліць уплыў вапна-серкавага злучэньня на пашырэньне паршы пры ўмове:

1) двух веснавых апырскваньняў;

2) двух-чатырох летніх апырскваньняў.

Для веснавога апырскваньня была ўзята адна паасобна стаячая яблыня (антонаўка) у садзе пры Лябараторыі Стазра. Першае апырскваньне зроблена 18-IV у пачатку разгортваньня ліставых пупышак (зялёныя кончыкі), а другое 26-IV у момант, зьяўленьня бутонаў перад

красаваньнем. Концэнтрацыя вапна-серкавага злучэньня для першага апырскваньня ўзята 1:50, а для другога 1:75.

Летняе апырскваньне вапна-серкавым злучэньнем ужо правяралася ва ўмовах БССР у 1929 г. і цяпер была мажлівасьць перанесьці яго на садовыя масывы. Апырскваньне саду было зроблена ў саўгасе Верхні Брылёў (Гомельскі нагляд. пункт) на плошчы 4 *га* і ў Менску (Пярэспа) на 9 радкох саду (каля 2 *га*).

У Менску (Пярэспа) сад закрасаваў 6—10-V. Выразныя плямы паршы былі заўважаны 10—12-VI. Першае апырскваньне было праведзена 2-VII, а другое 17-VII. У Гомлі праведзена чатыры летніх апырскваньні—15-VI; 23-VI; 3-УІІ; 15-VII. Концэнтрацыя вапна-серкавага злучэньня аднолькавая—1:50. Першыя плямы паршы на кантролі былі заўважаны 7—10-VI (Гомель).

**Вынікі:** 1. Два веснавых апырскваньні вапна-серкавага злучэньня (Менск, сад Стазра), як і можна было чакаць, далі лепшыя вынікі. На лісьці парша дала пашкоджаньня 9 проц. пры кантролі 43 проц. Сярод пладоў было пашкоджаных—пры апырскваньні 18,7 проц. на кантролі 67,3 проц.

2. Летнія апрыскваньні ў Менску (Пярэспа) і Гомелі далі даволі падобныя вынікі (у Менску менш выразныя), чаму прывяду тут толькі даныя па Гомелю. Вучот паршы на лісьці даў такія лічбы:

**Вучот пашкоджаньня лісьця паршаю саўг. В. Брылёў (Гомель, 1930 г.).**

| Сарты | Пасьля апырскваньня | Без апырскваньня |
|---|---|---|
| Антонаўка . . . . | 19,5% | 36,0% |
| Рэнэт курскі . . . | 22,5 „ | 45,0 „ |

Для вучоту пашкоджанасьці пладоў у час прыборкі быў аналізаваны ўраджай з 4-х дрэў апырснутых і 4-х дрэў без апырскваньня. Вынікі аналізу для сорту курскі рэнэт паказаны ў табліцы.

| Назва хваробы | Без апырскваньня | | Пасьля 4-х апырскваньняў | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік | % | Лік | % |
| Усяго падлічана пладоў . . . . . . . | 626 | 100 | 598 | 100 |
| „ плад. гнільлю . . . . . . . | 14 | 2,2 | 17 | 3 |
| Пашкоджана плад—паршою . . . . | 102 | 16.3 | 48 | 8 |
| Парша . . . . . . . . . . . . | 360 | 57,5 | 96 | 16 |
| Усяго пашкоджана . . . . . | 476 | 6,0 | 161 | 27,0 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Сярод іх: Плад. гніль . . . | 116 | 18,5 | 65 | 11,0 |
| Парша . . . | 462 | 73,8 | 144 | 24,0 |

Як бачым ні апырскваньні вясною, ні апырскваньні летам самі па сабе не даюць зусім здаровага ўраджаю ад паршы, хаця і зьніжаюць проц. пашкоджаньня ў параўнаньні з кантролем разы ў тры. Веснавому апырскваньню, трэба даць перавагу перад летнім.

3. Лепшых вынікаў, пэўна, чакаць ад наступовага веснавога і двухтрох летніх апырскваньняў. Што парша мае два моманты масавага пашырэньня заразы, толькі гэтым і можна тлумачыць ня поўнае зьнішчэньне яе (паршы) аднымі летнімі апырскваньнямі вапнава-серкавым злучэньнем. Ніводнага разу не назіраўся апал лісьцяў або пладоў ад гэтага фунгісіду.

4. У далейшым вывучэньні будзе ставіцца пытаньне падвышэньня фунгісідных якасьцяй вапна-серкавага злучэньня і перанасеньне яго ў больш шырокую практыку барацьбы з паршою і іншымі грыбнымі хваробамі. Першыя назіраньні 1930 г. пры апырскваньні бульбы паказалі на падвышэньне ўраджаю апырснутых вучасткаў.

**С. Тупяневіч.**

Беларуская Зон. Станцыя
Аховы Расьлін Менск.

# Культура цыкорыя на Беларусі

Культура цыкорыя ў нас у БССР распаўсюджана вельмі слаба. Раней гадоў 20 таму назад, культурай цыкорыя займаўся адзін толькі Растоўскі павет. Яраслаўскай губэрні. З усёй колькасьці атрымліваемай Растоўскім паветам (10 мільёнаў клгр. сухога цыкорыя штогодна) $^1/_4$ вывозілася за межы, а рэшта разьмяркоўвалася сярод насельніцтва ўнутры краіны. Такім чынам на 1 чалавека ў сярэднім прыходзілася ў год па 50 грам.

Спажываньне цыкорыя ў СССР штогодна расьце і з тае прычыны, што культура гэтае расьліны нескладаная, а вельмі простая, дык трэба настойліва раіць яе. Растоўскі раён можа даць толькі адну трэць неабходнае колькасьці цыкорыя, а таму цыкоры стаў разводзіцца за апошнія 10 год па ўсяму прастору СССР ад Валагды і да Крыма.

Па праекту Наркамзему ў канцы пяцігодкі ў розных раёнах РСФСР павінна быць ня менш 25 тыс. *га* занятых пад цыкоры, што дасьць 125 тысяч тон сухога цыкорыя г. ё. у 12,5 разоў болей, чымся вытваралася да вайны.

Магчымасьць распаўсюджваньня цыкорыя на такім вялікім прасторы нашага Саюзу паказвае, што цыкоры невымагальны ні да цяплыні ні да глебы. Апошнія гады, дзякуючы выключным патрабаваньням насельніцтва, цыкоры набыў вельмі важнае значэньне і, трэба думаць, што такое патрабаваньне будзе яшчэ доўга ўзрастаць.

Цыкорнай зямлёю лічаць наогул горшую ў гародзе, але больш сталы ўраджай цыкорыю лягчэй за ўсё атрымаць на нашых беларускіх лёгкіх, супясчаных глебах. Зямлю цыкоры любіць пульхную пажыўную, але ня сьвежаўгноеную. Градак можна не рабіць, а сеяць на роўным месцы.

Цыкоры—вельмі ўдзячная і невымагальная расьліна і больш-менш добра расьце на ўсякіх глебах, дзе растуць збожжа і гародніна. Зямлю пад цыкоры трэба араць з восені на поўную глыбіню, асабліва ў нас

на Беларусі, дзе глеба падзолістая. Вясною, як мага раней, дзялянку барануюць і сеюць цыкоры радамі на адлегласьці 25 *см*. Пры зьяўленьні ўсходаў, апошнія вырываюцца на 12 *см* адзін ад другога. Цыкоры любіць свабодна сядзець, у гэтым выпадку ён дае буйныя карані і ўраджай атрымліваецца вельмі вялікі, але толькі варта пашкадаваць прарваць яго, як карані атрымліваюцца тонкія, благія і ўраджай будзе меншы.

Пасеў робіцца сеялкай „Плянэт", як мага просталінейны, каб лягчэй было рабіць чарговы догляд на працягу лета—старанную полку, прарэджваньне, выпалваньне пустазельля і пульхненьне глебы разоў 4 у лета, каб не стваралася корка. Насеньне цыкорыя трэба засыпаць ня глыбей, як на 1 *см*.

Вельмі добра дзейнічаюць на бедныя беларускія глебы мінэральныя ўгнаеньні—супэрфасфат, калійная соль і салетра. Мешаніна гэтых мінэральных соляй павышае ўраджай цыкорыя да 40 проц. Надта добрым угнаеньнем для цыкорыя служыць попел, які дзейнічае як калійная соль і супэрфасфат разам.

Насеньне цыкорыя вельмі добра прарастае ў зямлі нават пры вельмі малой вільгаці, так што мачыць і прарашчваць яго не абавязкова. Пры спозьненым пасеве, насеньне намачваюць на працягу сутак.

Увосень корань доўга наліваецца, таму яго патрэбна выкапваць з зямлі як мага пазьней, прыблізна, у канцы верасьня альбо ў пачатку кастрычніка. Да гэтага часу лісьце трохі жаўцее. Перад тым, як капаць корань, зяляніну абкашваюць касой і аддаюць коням і скаціне (не малочнай). Уборку робяць плугам. Выкапаўшы корань, зараз-жа вязуць да водазбору і мыюць як мага чысьцей, каб з кораня змыць усю зямлю, пакуль яна яшчэ сырая. Калі карэньні прызначаны для зімовага хаваньня і вырашчваньня насеньня, дык іх мыць нельга, а, наадварот усяляк стараюцца захаваць ад дажджавой вады ці сьнегу.

Сушка цыкорыя робіцца такім чынам: спачатку ў кораня адразаюць верхавіну з зялянінай, якую аддаюць скаціне, потым карані „краяць", г. зн. разразаюць усьцяж на 4 часткі, потым ужо нажом крышаць на невялікія кавалкі прыблізна ў 2 *см* і падсушваюць у печках.

Да імпэрыялістычнае вайны насеньне цыкорыя атрымлівалася з-за мяжы, галоўным чынам з Нямеччыны, а між іншым у нас на Беларусі і паўночных раёнах Саюзу, ня кажучы аб поўдні, насеньне цыкорыя надта добра высьпявае і дае добрае насеньне.

Для атрыманьня насеньня ўвосень лепшыя карані выбіраюць з зямлі, ня мыюць, а закапваюць у яму. Можна зрызыкаваць частку цыкорыя пакінуць нявыкапанай на градах. Зразумела, частка можа загінуць ад марозаў, але частка застаўшагася цыкорыя з першым цяплом вясны пускаецца ў рост.

У вясну яго выкапваюць, сартыруюць і паступаюць, як з карэньнямі захаванымі ў яме, г. ё. у кожнага кораня трэцюю частку абразаюць і высаджваюць на грады, закапваючы ўвесь корань у зямлю. Летні догляд за васеньнікамі складаецца ў выпалваньні сьмяцьцёвых траў і абгароджваньні град жэрдкамі.

Красуе цыкоры дзіўнымі блакітнымі кветкамі. Дасьпяваньне насеньня адбываецца не адразу. Спачатку пасьпявае насеньне ў верхніх пушачках і пакуль высьпяваюць ніжнія, дык верхнія і сярэднія справяцца абсыпацца і ўпадуць на зямлю.

Дзеля дружнага высьпяваньня насеньня, неабходна ўзяць расьліну за сьцябло і трохі высмаргнуць з зямлі такім чынам, каб корань

патурбаваўся і дробныя карнявыя валаскі абарваліся і зараз-жа корань апускаецца на сваё месца. На трэці дзень пасьля апэрацыі ўсе сьцяблы пажаўцеюць, тады цыкоры трэба прыбраць з поля і выратаваць семя. Цыкоры нельга ні зрэзаць, ні класьці на граду, бо семя лёгка абсыпаецца. Для ўборкі цыкорыя карыстаюцца хмарным сырым днём. Расьліны асьцярожна вымаюць з коранем з зямлі і кладуць на калёсы, на разасланае палатно, каб ня губіць насеньне, якое сыплецца са сьцябла. З павозкі сьцяблы складаюцца ў пуню і зараз-жа абкалачваюцца палкамі, каб выбіць усё сьпелае семя. Потым сьцяблы зьвязваюцца ў пучкі і ставяцца каля сьцяны, каб награвалася ад сонца і дасьпявала рэшта насеньня. Праз некалькі дзён іх зноў абкалачваюць палкай і зноў выстаўляюць сушыць. Абкалачваць прыходзіцца разоў тры. Потым семя прасейваецца праз мэталічнае сіта, каб вызваліцца ад пушачак. Семя прасушваюць, а пушачкі насыпаюць у торбачку, сушаць на печы і малоцяць.

Самы лепшы гатунак цыкорыя лічыцца „Маглэбурскі". У яго вельмі гладкі і шчыльны корань, які дае найбольшы ўраджай з гектару— 25 тон сырога кораня.

Цыкоры можа расьці і на дрэннай зямлі, вельмі добра апраўдвае ўсялякае ўгнаеньне і амаль што не падпадае хваробам, ня зьнішчаецца шкоднікамі, таму сапраўды лічыцца вельмі карысным таварам як для ўнутранага рынку, так і для экспарту за межы. Перавага культуры цыкорыя на Беларусі перад другімі часткамі нашага Саюзу знаходзіцца ў тым, што болей сталы ўраджай цыкорыя лягчэй за ўсё атрымаць на беларускіх лёгкіх супяшчаных глебах—гэта першае. Па-другое, на лёгкіх супясчаных глебах, вясеньняга ўзорваньня можна не рабіць, а проста распачаць баранаваньне і пасеў. У гэтым і ёсьць ашчаднасьць працы і часу.

Што-ж датычыцца прыбытку ад культуры цыкорыя, дык яна перавышае ў 7 разоў прыбытак хлеба, у 2 разы карысьней ільну і некалькі вышэй прыбытку бульбы.

Саўгасам і калгасам трэба прыняць гэта пад увагу і сур'ёзна абмеркаваўшы гэтае пытаньне, паставіць яго ў парадак дню, па ўдарнаму, і перайсьці ў рашучы наступ па фронту культуры цыкорыя ня толькі на Беларусі, але і па другіх месцах нашага вялікага саюзу, дзе гэта магчыма.

Настаўнік **С. Яфрэмаў.**

**Кожны селькор, кожны актывісты калгасу і вёскі павінен пашыраць падпіску на часопіс „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ".**

Адказны рэдактар—**Рэдкалегія: Аўчыньнікаў Т., Бондар Г., Паніматка, Самусевіч, Сямашка С.**

## ЗЬМЕСТ

ЦАНА 15 кап.

# АДКРЫТА ПАДПІСКА на 1931 г.
НА ЧАСОПІС

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Орган Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР

У 1931 г. ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“ БУДЗЕ РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

Часопіс асьвятляе пытаньні калектывізацыі, сельскай гаспадаркі, шырока асьвятляе жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў.

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінна мець часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць часопіс „Шляхі калектывізацыі“.

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА
на 1931 г.

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год | 3 руб. | |
| „ 6 мес. | 1 „ | 50 кап. |
| „ 3 „ | | 75 „ |
| „ 1 „ | | 25 „ |

24 НУМАРЫ ЧАСОПІСУ Ў ГОД

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА

На кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў выдавецтве „Беларуская Вёска“

АДРАС РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСУ

г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.